

№ 37 (54)

Кастрычнік 2004 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:

Рэгіён: пухавіцкая вёска Угалец – стар. 3

Помнік: сад Ядвігіна Ш. – стар. 3

Школьнае краязнаўства: партызанская грэбля, партызанская сасна... – стар. 5

Кіркор: аўтар трэцяга тома «Живописной России» – стар. 6

## Беларускія стыхіі Фердынанда Багдана Рушчыца

22 верасня 2004 года ў рамках акцыі Польскага інстытута ў Мінску «Восень з польскай культурай-2004» у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася выстава малюнкаў і фатаграфій унука знакамітага беларускага і польскага мастака XIX–XX стст. Фердынанда Рушчыца. Унук – таксама знакаміты чалавек у Польшчы. Ён дырэктар Нацыянальнага музея ў Варшаве, гісторык мастацтва, публіцыст. Не аднойчы наведваючы мясціны, дзе жыў і працаваў яго знакаміты дзед у в. Вішнева Валожынскага раёна, Фердынад Багдан Рушчыц зафатграфаваў маляўнічыя краявіды вёскі, рэчкі Гальшанкі, лугоў і лясоў – тыя мясціны і ў тым ракурсе, як маляваў ягоны дзед. Усё атрымалася вельмі незвычайна і хораша.

Выстава працягне сваю працу да 9 лістапада 2004 года.

*Наш кар.*



**З нашага архіва:** *год таму 30 верасня ў в. Смольгава на Любаншчыне быў адкрыты помнік славутаму земляку Уладзіславу Сыракомлю. Пра аўтара помніка – Р. Грушу чытайце на стар. 3.*



## Асвечаная Крыжам Ефрасінні Полацкай

***З 18 па 26 верасня 2004 года па блаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта ў Мінску, у выставачным павільёне па вуліцы Янкі Купалы, праходзіла выстава «Беларусь праваслаўная». Галоўным, да чаго тут прыцягвалася ўвага наведвальнікаў і паважаных гасцей як з Беларусі, так і з далёкага і блізкага замежжа, было кругласутачнае прадстаўленне галоўнай святыні Беларусі – Крыжа прападобнай Ефрасінні Полацкай.***

Усе шматлікія мерапрыемствы, якія праходзілі на прасторных пляцоўках павільёна, адкрываліся і закрываліся пад спеў званоў, што стварала магчымасць самым розным па змесце падзеям як бы плаўна, нязмушана перацякаць з аднаго моманту часу і прасторы ў другі, не менш цікавы і значны. Так, выстава царкоўных рэчаў і літаратуры як бы падрыхтоўвала публіку да шырока разгорнутых тут жа кірмашоў «Мядовы» і «Трапеза», нарэшце, запыняла ўвагу прысутных каля фотавыстаў «Беларусь праваслаўная» і аўтарскай Максіма Чарнагалова.

Дарагога варты сустрэчы з цікавымі людзьмі, якія бачаць сваё высокае прызванне ў бескарыслівым служэнні хрысціянству, праваслаўю. Гэта і дзіцячы пісьменнік Б. Ганага, дзіцячы псіхолаг, аўтар кнігі «Дзіцячая праўда» Н. Драбышэўская, рэжысёр дзіцячых мультфільмаў І. Кадзюкова, кіраўнік майстар-класа галерэі «Славутыя майстры» «Беларускі арнамент. Тканыя паясы» А.Санько, кіраўнік майстар-класа галерэі «Славутыя майстры» «Беларуская саломка. Пляценне» Н. Бандарэнка, дырэктар гандлёвага Дома «Свет пчол» Л. Дзёмкін, кіраўнік майстар-класа галерэі «Славутыя майстры» «Гомельская скань. Карункі з драўлянай стужкі» В.Тэсля.

Моцна ўражвае экспазіцыя кніг, прысвечаных праваслаўным храмам на Беларусі, выдавецтва «Чатыры чвэрці» (галоўны рэдактар Л. Анцух). Іх з'яўленне – сведчанне не толькі павагі да храмавай архітэктуры, гэта – своеасаблівая энцыклапедыя помнікаў гісторыі і культуры, сапраўдныя падручнікі па выхаванні патрыятызму.

Адбыліся таксама прэзентацыі новага зборніка вершаў іераманаха Рамана «Радоваться небу», кнігі Аляксея Мельнікава «З неапублікаванай спадчыны» і інш.

Багатымі былі кіна- і відэадэманстрацыі. У канферэнц-зале адбыліся паказ відэафільмаў «Цуд жыватворнага агню. Ерусалім. Беларусь», «Святло жыватворнага агню на Белай Русі. Дарога да святыняў», «Праваслаўе ў Польшчы», «Тут мы дыхаем паветрам вечнасці» (пра Свята-Успенскі мужчынскі манастыр у Жыровічах), прэм'ера фільма «Легенда пра лэдзі Гадзіву».

А ці можна ўявіць выставу без літургій і песнапення? Выступалі дзіцячы ансамбль «Тымпан» Рэспубліканскага каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка, маладзёжны хор Свята-Петра-Паўлаўскага сабора, вакальны ансамбль СШ № 178 з «Літургіяй» Баратнянскага, дзіцячы хор СШ № 6, выкладчыкі музычнай школы № 6, жаночы хор БДУ культуры, кафедры акадэмічнага харавога і вакальнага мастацтва і г.д. 17 і 24 верасня аматараў спеваў і духоўнай музыкі сабрала камерная зала філармоніі на канцэртах вядучых царкоўных хораў горада Мінска «Спявае Беларусь праваслаўная».

***Іван ГРЭБЕНЬ***

*Шаноўныя сябры! Шчыра вітаем новых чытачоў, якія падпісаліся на нашу газету, а таксама ўсіх, хто застаўся з намі. «Краязнаўчая газета» – Ваш памочнік і сябар.*

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны – 63320;
ведамасны – 633202

**Кошт на 1 месяц:**
індывідуальны – 3 320 рублёў;
ведамасны – 3 439 рублёў

**Падпіска працягваецца!**

*Чытацкі водгук*

# Таямнічы надпіс

Я даўно супрацоўнічаю з археолагамі НАН Беларусі. Асабіста знаёмы і з Эдвардам Зайкоўскім. А прачытаўшы ў № 33 «Краязнаўчай газеты» яго артыкул «Калі на Беларусі з'явілася пісьмо?», зразумеў, што я, відаць, так і не расказаў Эдварду пра надмагільны камень з вёскі Лазы Ваўкавыскага раёна з таямнічым надпісам. Паспрабую сёння выправіць гэту недарэчнасць.

У самым пачатку 60-х гадоў XX стагоддзя ў кожную вольную ад працы хвіліну я сядаў на ровар і аб'язджаў навакольныя вёскі, каб знайсці новыя экспанаты для сваёй нумізматычнай калекцыі. Аднойчы завітаў у вёску Лазы. Але, пад'язджаючы да вёскі не з боку Гродзенскай шашы, а з іншага – ад вёскі Боблава, я трапіў на старыя вясковыя могілкі.



Нізенькая, бляклая трава, падпечаная сонцам, на беднай пясчанай глебе і ўтравелыя камяні. Шмат пляскатых камянёў, пастаўленых «на папа». Адны яшчэ нахіленыя, іншыя ўжо ляжаць... З выбітымі пад верхам ці пасярэдзіне крыжыкамі і без усялякіх знакаў... І раптам – з надпісам. Я паклаў ровар і апусціўся на калені, каб прачытаць: хто ж спачывае пад гэтым каменем? Але... прачытаць не змог, не хапіла ведаў. Надпіс нагадваў нейкія «армянскія» літары. А, можа, гэта «беларускія руны?» – падумаў я і старанна перамаляваў надпіс у сваю запісную кніжачку.

Дасылаю гэты надпіс вам, можа, хто з чытачоў расшыфруе.

Пасля да гэтага надмагілля я з'ездзіў яшчэ раз – з мяшочкам алебастру, з вазелінам і гіпсоўкай. Зняў з каменя «маску», а ўжо дома адліў па форме сам «камень», які некаторы час стаяў у школьным музеі Краснасельскай СШ. На жаль, новая «дырэктрыса» школы хутка загадала ўсе экспанаты музея вывезці на сметнік. А вельмі шкада, бо і арыгінал, і самыя вясковыя могілкі знішчаны яшчэ ў 90-я гады мінулага стагоддзя калгасным бульдозерам.

Вось на такой невясёлай ноце вымушаны я скончыць свой аповед.

***Міхась ВЕРАЦІЛА,***
***в. Навасёлкі***
***Ваўкавыскага раёна***



### Рэтрамарожанае?

Бо называецца яно не «Санкт-Петербургское», а «Ленинградское». І выпускаюць яго на ААТ «Слуцкі сыраробчы камбінат». Зрэшты, карыстаецца яно попытам не толькі паблізу Слуцка, а і па ўсёй Беларусі. За месяц яго пастаўкі, як і марожанага ў шакаладна-арэхавай і сметанкова-крэмавай глазуры «Лакомка», «Морозко», выраслі ў два разы. А вось вагавае марожанае слуцакоў, асабліва пламбіры, упадабалі ў сталіцы, дзе яго набываюць многія рэстараны, кафэ, бары.

Зрэшты, рэтрамарожаным яго можна лічыць хутчэй за ўсё таму, што, як сцвярджае галоўны тэхнолаг слуцкага сыркамбіната Наталля Малышка, яно выпрацоўваецца толькі з натуральных кампанентаў па старых класічных рэцэптах.

Старыя традыцыі і новыя тэхналогіі спалучаюць тут і пры выпуску больш за паўтара дзесятка відаў сыроў. Сярод навінак – «Маасдам прэм'ер», знакаміты швейцарскі. На новым абсталяванні з гэтага года вырабляюцца сыры сычужныя «Раніца», «Сулугуни», «Любомирский с копчением», а таксама сырныя рулеты і палачкі да піва. Прадукцыя захоўвае ўсе карысныя ўласцівасці малака, і сапраўдныя гурманы ўжо адзначылі яе вытанчаны густ.

У правілах калектыву, заўважыў дырэктар сыраробчага камбіната Анатоль Стэцка, жорсткі кантроль якасці, удасканаленне тэхналогій, работа над яркай і прывабнай упакоўкай. Да сямідзесяцігадовага юбілею прадпрыемства , які будзе адзначацца ў наступным годзе, сыраробы абяцаюць парадаваць спажыўцоў яшчэ не адной смачнай і карыснай навінкай.

### З тостава цеста

А зараз колькі слоў пра прадукцыю ААТ «Слуцкі хлебазавод». І найперш пра тоставыя булкі незвычайных форм – круглыя, трохвугольныя, рознай вагі, у празрыстай тэрмаўсадачнай упакоўцы, наразныя. Яны хутка разыходзяцца ў бліжэйшых раёнах – Старадарожскім, Любанскім, Капыльскім.

Як не дзіўна і тое, што з'явіліся яны і на святочным стале дырэктара хлебазавода Аляксандра Казейкі, калі той у канцы мінулага года адзначаў свой паўстагадовы юбілей. І калі заўважыў, што кожны год асартымент прадукцыі хлебазавода ў сярэднім абнаўляецца на 15–20 працэнтаў. Тая ж булка «Тостовая» робіцца па заходняй тэхналогіі і атрымліваецца вельмі смачная і пажыўная. З нарэзаных квадратных кавалачкаў пшанічнага хлеба можна хутка прыгатаваць любы бутэрброд і запячы яго ў тостэры ці мікрахвалёўцы. Да кавы, чаю – хутка і зручна.

Дададзім, што слуцкія хлебапёкі ў суткі пры бесперапынным рэжыме работы выпякаюць у сярэднім 20 тон хлеба, 8 – булак, 2 – абаранкаў і сухароў, каля 500 кілаграмаў тортаў, кексаў, пернікаў і іншага салодкага тавару.

# Адысеі розуму з Брэста

***Каманда другой брэсцкай гімназіі ў складзе Дзяніса Крымава, Дзмітрыя Русака, Валянціны Валітавай, Анастасіі Курнышавай, Крысціны Ляшчонак заняла трэцяе месца на сусветным фінале інтэлектуальнага конкурсу школьнікаў «Адысея розуму» ў Вашынгтоне. 66 краін бралі ўдзел у спаборніцтвах. Спачатку прайшлі рэгіянальныя туры. На лютаўскай еўрапейскай «Адысеі розуму» ў Берліне брэстаўчане занялі другое месца і былі запрошаны на фінал. Ва універсітэце Мэрыленд у першыя дні чэрвеня сабраліся каманды-пераможцы з 17 краін свету на выніковую гульню. Як трапілі брэсцкія гімназісты ў амерыканскую сталіцу – асобная гісторыя.***

Ва ўсіх астатніх 65 краінах, у тым ліку ў Расіі, ва Украіне, у Польшчы, асацыяцыі «Адысея розуму» існуюць як афіцыйна зарэгістраваныя арганізацыі – нешта накшталт інтэлектуальнага клуба знатакоў або сярэдняе паміж КВЗ і прадметнай алімпіядай школьнікаў. І фінансаванне юных разумнікаў вядзецца на дзяржаўным узроўні. У Беларусі такой арганізацыі няма. Дзеці спадзяваліся, верылі, рыхтавалі дамашняе заданне, якое прадугледжана ўмовамі конкурсу, але да канца красавіка ніхто не ведаў, ці адбудзецца паездка. Напярэдадні майскіх святаў прыйшла вестка аб тым, што амерыканская асацыяцыя «Адысея розуму» выдзеліла грант – крышку больш як пяць тысяч даляраў – на ўдзел брэстаўчан у 25-м юбілейным конкурсе. Тры мільёны рублёў выдзеліў гарвыканкам.

Фінал праходзіў у два этапы: дамашняе заданне і заданне, якое каманда выконвала ў прысутнасці журы. Дамашняе заданне называлася «Класіка... фантастыка, мастацтва». З прапанаваных 10 карцін трэба было выбраць дзве, зрабіць сваімі рукамі рэпрадукцыі і «ажывіць» палотны, паказаць дзею па матывах карціны. Выбралі «Зорную ноч» Ван Гога і «Леў, які спіць» Рэмбранта. Малявалі, клеілі, ляпілі, майстравалі, здаралася, начамі – дзён не хапала. У гімназіях вядома, якая праграма. На матэрыялы і дэкарацыі па ўмовах конкурсу нельга было патраціць больш як 135 даляраў. Улажыліся ў 115. Зорную ноч зрабілі на вялікім кавалку тканіны, а льва змайстравалі з пап'е-машэ. Свой васьмімінутны англамоўны спектакль брэсцкія гімназісты пабудавалі ў форме філасофскай прытчы аб гармоніі чалавека з прыродай як абавязковай умове для шчасця. А іншыя ўдзельнікі падрыхтавалі відовішчныя, феерычныя шоу, амаль што мюзіклы, як аказалася, у традыцыі гэтага конкурсу. Нашы ж былі там першы раз, вопыту не мелі. Калі каманда выступала, кіраўнік Таццяна Галюк сядзела ў зале. Дзеці закончылі выступленне – цішыня ў зале... У Таццяны Уладзіміраўны сэрца ўпала: не зразумелі, не прынялі, правал! А праз паўмінуты зала ўзарвалася апладысментамі. Публіка проста асэнсоўвала ўбачанае.

Дарэчы, зала – першае, што ўразіла падчас адкрыцця імпрэзы, расказваюць Насця Курнышова і Крысціна Ляшчонак, – зала на 50 тысяч гледачоў, уся запоўненая. І першым стаяў беларускі сцяг. Можа таму, што яго шылі ў апошні момант (у арганізатараў не аказалася сцяга нашай краіны), яго паставілі першым – на радасць юным брэстаўчанам.

– Там мы амаль фізічна адчувалі сябе беларусамі, гэта нельга перадаць словамі, асабліва калі ігралі наш гімн, – усе разам гавораць Насця, Крысціна, Дзяніс. «А ў самалёце па дарозе назад яны гімн спявалі», – расказвае настаўніца.

Другая частка спаборніцтваў выяўляла магчымасці школьнікаў прымяніць на практыцы свае веды па фізіцы, матэматыцы, лінгвістычныя, камунікатыўныя здольнасці. Брэстаўчане набралі 333 балы – гэта самы высокі вынік сярод усіх каманд.

Аграмадны прыгажэнны кубак за прызавое месца ў «Адысеі розуму» стаіць зараз у кабінеце дырэктара гімназіі № 2 Галіны Фрыдрык. Як яго везлі з Вашынгтона – цэлая гісторыя. Ляцелі праз Варшаву, Парыж. І на кожнай мытні дапытваліся, ці аплачаны правоз гэтага грузу. І ўсім Таццяна Уладзіміраўна цярпліва тлумачыла, што перамогу нельга прадугледзець і аплаціць транспарціроўку прызавога кубка. Пасля гэтага службовыя асобы ўсміхаліся і віншавалі з перамогай. І толькі на польска-беларускай мяжы іх сустрэлі і праводзілі аднолькава строга – афіцыйна, пасля чаго канкурсанты зрабілі выснову, што польская мытня – самая сур'ёзная ў свеце. З гумарам у юных інтэлектуалаў таксама ўсё ў парадку.

***Святлана ЯСКЕВІЧ,***
***«Звязда»***




***Прывітанне, Браце!***

***Гэтым разам хачу расказаць табе пра аднаго дзівоснага чалавека, пра земляка з ліку тых, кім варта ганарыцца.***

*Пазнаёміла мяне з ім Галіна Іванаўна Аніскевіч, аўтарка кнігі «Жодино: история и современность». Гісторык паводле адукацыі, кіруе яна цяпер групай па стварэнні жодзінскага краязнаўчага музея. Пасля таго, як паказала мне сваю гаспадарку – будынак былога гарсавета, дзе мяркуецца размясціць экспазіцыю і ўжо назапашаныя экспанаты, яна запыталася: «А да Пузанкевіча не жадаеце з'ездзіць?»*

*Дзіва што! Пазнаёміцца са спадаром Генадзем хацеў даўно – кузенаў катэдж з паўгода ўпрыгожвае твор Майстра. Таму неўзабаве шлях наш ляжаў у вёску Судабоўка, якая ўключана цяпер у гарадскія межы. Колісь хлапчукамі не раз ездзілі паўз яе на роварах, калі выбіраліся па карасёў на возера Судабле. Можа, нават закідвалі вуды поруч з Генам, а цяпер Генадзем Канстанцінавічам, бо мы з ім амаль што аднагодкі...*

*Праехалі лабірынтам вуліц і завулкаў дый патрапілі да адметнай сядзібы, што ледзь не на самым беразе Плісы. Ужо па аздобе франтона з салярным знакам было відаць, што жыве і працуе тут чалавек творчы, неабыякавы да прыгажосці. На дзвярах прымацаваны на вяровачцы вісіць як абярэг просты аловак.*

*(Заканчэнне на стар. 7)*

*На фота: У. Сіўчыкаў і Г. Пузанкевіч*





# Сад Ядвігіна Ш.

У тыя далёкія ўжо часы мала ў каго ў наваколлі Карпілаўкі быў сад. Хіба толькі ў Чаховіча. Сяляне ж лічылі панскай раскошаю мець сады. Сады пераважна заводзілі паны, фальваркоўцы. Яны шмат дзе ездзілі, шмат дзе бывалі, шмат чаго бачылі і ведалі з садоў толк: як ля іх завіхацца, як іх даглядаць. Самыя багатыя паны – маёнткаўцы – трымалі спрактыкаваных садоўнікаў. Фальваркоўцы самі рупіліся пра свае сады. Шмат каму з іх проста самім карцела завіхацца ля сваіх гадаванцаў: абразаць галінкі, фарміраваць кроны, бяліць ствалы.

Такім садоўнікам-самавукам быў і Ядвігін Ш. з роду Лявіцкіх. Догляд саду для яго быў асалодаю. Садовыя дрэвы былі для яго нібыта жывыя істоты. Ён ля іх чараваў, як той цырульнік ля пацыента.

Садок свой ён засадзіў адмысловымі гатункамі дрэў. Дзе б ні быў, усюды прыглядаўся, хто які сад меў, якога ў яго заводу дрэвы, і самымі лепшымі засадзіў карпілаўскі падворак.

Сад даваў прыбытак. Даход з яго падтрымліваў фальварак. І самі Лявіцкія цэлую зіму былі з яблыкамі. Яны перахоўваліся ў іх на паддашку, добра абсталяваным для гэтага. Увосень увесь дом Лявіцкіх поўніўся пахам яблыкаў. Гэты яблычны водар шмат каму стаўся незабыўным. Пасля, як усіх Лявіцкіх раскідала, расцерушыла па свеце, іхні сад адорваў яблыкамі ўвесь навакольны люд. Смак іх зведаў шмат хто. Таццяна Русецкая, колішняя жыхарка суседняй з Карпілаўкай Жукаўкі, згадвае, як яе бацька, калі толькі захочацца сыравінкі пакаштаваць, казаў: «А ну шуганулі да Лявіцкіх грушы драць!» Надзя Левандоўская, карпілаўская жыхарка, жыве ў суседстве з колішнім фальваркам Ядвігіна Ш., згадвае, што ў садзе Лявіцкага спелі ранеты, папіраўкі, грушкі розныя. Смакаваць яблыкі з саду Лявіцкага даводзілася і Ядзі Шумскай: «Бывала, разрэжаш яблык, а ён табе сокам як пырсне!»

У 1939 годзе шмат дрэў вымерзла. Зараз ацалела колькі яблыняў. Яны здзічэлі, недагледжаныя. Ім, мусіць, не менш як гадоў па сто. Растуць на лес гледзячы. А лес на іх.

*Уладзімір СОДАЛЬ*



Аўтар у садзе Лявіцкіх

# Камяні Рычарда Грушы

***Задума ўстанаўліваць помнікі-камяні прыйшла да Рычарда Грушы 12 лютага 2002 года, калі ў Мінску, у Палацы мастацтва, адкрывалася яго персанальная выстава. Натхнілі ж яго на гэтую задуму пісьменнікі і мастакі, якія тлумна прыйшлі паглядзець палотны і скульптуры майстра з Ліды. Хтосьці з выступоўцаў ацаніў тады яго экспрэсіўную манеру: «Беларускі Ван Гог».***

Р. Груша нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Сцеркава Лідскага раёна. Закончыўшы сярэднюю школу, застаўся працаваць у родным калгасе «Бердаўка». Старшыня гаспадаркі Аляксандр Каранюк заўважыў здольнасці юнака і накіраваў яго ў Гродна на курсы мастакоў-афарміцеляў. Затым – ваенная служба ў Ленінградзе, у Ваенна-медыцынскай акадэміі імя Кірава. Горад на Няве з яго помнікамі архітэктуры і музеямі захапіў Рычарда. Кіраўніцтва акадэміі прапанавала юнаку вылепіць скульптуру маладога байца ў натуральную велічыню. Выробленая прэс-форма адлівалася ў метале на мастацка-скульптурным камбінаце. Работа Р. Грушы была ацэнена на «выдатна». Пасля заканчэння службы яму прапанавалі застацца пры акадэміі мастаком. Але любоў да родных мясцін і бацькоўскага дому ўзяла верх.

Вярнуўшыся ў Сцеркава, Рычард займаўся мастацкім афармленнем. Паступіў і закончыў завочнае аддзяленне Маскоўскага народнага універсітэта мастацтваў (па спецыяльнасці станковы малюнак і жывапіс).

З 1987 года Р. Груша пачаў займацца разьбой па дрэве. Стварыў кампазіцыю «Сымон-музыка» для аднаго з дзіцячых садоў Ліды, партрэт Адама Міцкевіча для музея ў Навагрудку, устанавіў 25 скульптур у вёсцы Тракелі Воранаўскага раёна. У 1993 годзе арганізаваў у Лідзе фірму «Дызайн», якая займаецца добраўпарадкаваннем гарадскіх тэрыторый. Разам з сябрам Юрыем Някрасавым стварыў мастацкую студыю для дзяцей і дарослых.

З 2002 года Р. Груша пачаў упрыгожваць беларускую зямлю памятнымі камянямі ў гонар тых людзей, якія праславілі гэтую зямлю ў свеце. Сярод іх – Ігнат Дамейка (Крупава Лідскага раёна), Адам Міцкевіч (Навагрудак), Іосіф Гашкевіч (Малі Астравецкага раёна), Міхал Клеафас Агінскі (Залессе Смаргонскага раёна), Уладзіслаў Сыракомля (Смольгава Любанскага раёна) і інш. Адмыслова выробленыя ім камяні стаяць у Міры, Нясвіжы, Полацку, Пружанах і іншых гарадах.

А наперадзе – новыя задумы. Рычард Груша лічыць, што памятных мясцін хопіць яму на доўгія гады работы.

***Алесь ЖАЛКОЎСКІ, г. Ліда***

*Кропка на карце*

# Угалец

Не аднойчы бываючы ў далёкім ад вялікіх дарог Угальцы, ніколі і не думаў, што ўся вёска – ад першай і да апошняй хаты – у Вялікую Айчынную вайну была спалена. Не думаў таму, што, як і ў кожнай вёсцы, бачыў тут тыя ж старыя, падфарбаваныя часам у шэрань хаты. І здавалася, што век іх – стагоддзе, не меней... Ды вось сустрэўся на гарэлецкай вуліцы з сталага веку жанчынамі. Слова за словам – і пра вайну загаварылі...

Узгадалі жанчыны і пра тое, што спаленая (і не аднойчы!) у вайну вёска аднаўляцца пачала ажно ў сярэдзіне 1950-х...

– Толькі ў 1956 годзе вылезлі з зямлянак...

Я нават здзівіўся – няўжо ў 1956-м, праз 12 гадоў пасля вызвалення...

– Ды хіба ж я не помню – у 56-м, – пацвердзіла жанчына.

А далей – болей: распövед пра лагер, у які субяседніца патрапі-ла напрыканцы вайны. У Германію не адправілі. Працавала ў Татарцы, каля Бабруйска.

– Везлі нас туды ў «данцынгах»...

Аказваецца, гэта так вагоны з арыштантамі называлі – «данцынгі». Тыя, што ў нас зваліся «сталыпіны»... У кожнага – свае этымалагічныя «каштоўнасці»... Па вызваленні вязні працоўнага лагера вярнуліся ў вёску.

Вярнуліся, каб даведацца, што шмат каго з іх блізкіх, родных ужо няма сярод жывых. Апошняя блакада забрала многіх. А параўнальна недалёка ад Угальца – партызанскія могілкі. Гэта цяпер іх называюць Баруслава. Раней – «юрчанкаўская лінія». Такая назва – у гонар камандзіра партызанскага атрада Фёдара Піліпавіча Юрчанкі.

– Юрчанкаўцы – самыя героі, – пераканаўча кажуць угалецкія жанчыны – дзеці вайны.

Юрчанка загінуў у лютым 1943 года. Атрад назвалі яго імем. А людзі і сёння памятаюць, гавораць пра Юрчанку як пра самага знакамітага партызанскага героя. Парадоксы... У музеях, здараецца, ушаноўваюць адных, а з пакалення ў пакаленне перадаюць імёны другіх.

З угалецкіх старажылаў – Аляксандр Аляксандравіч Сушко. Восемдзесят шосты год ідзе настаўніку-пенсіянеру ( у 1940 годзе закончыў Слуцкае педвучылішча, да вайны працаваў у Старадарожскім раёне). Вучыў дзетак не толькі на Міншчыне, але і на Берасцейшчыне – у Лунінецкім раёне. У Гарэльцы жыве з 1970-га... Хаця нарадзіўся Аляксандр Аляксандравіч непадалёк – на Асіповіччыне ў мястэчку Ліпень. Яно перайменавана ў гонар вызвалення ад польскіх інтэрвентаў 3 ліпеня 1920 года. І Ліпень-Халуі – з паселішчаў, якія не абмінула фашысцкае полымя.

– Лічу, што пры ўсіх перыпетыях жыцця мне ўсё ж пашчасціла... Бацьку рэпрэсавалі, а я застаўся за гаспадара, – расказвае Аляксандр Аляксандравіч. – Са мною – дзве меншыя сястры 1922 і 1929 гадоў нараджэння...

Што да бацькі, дык Аляксандра Іосіфавіча Сушко, 1883 года нараджэння, ураджэнца вёскі Ліпень, як сведчыць гісторыка-дакументальная хроніка Асіповіцкага раёна «Памяць», рэпрэсавалі 19 лістапада 1937 года. Працаваў на будаўніцтве яшчэ аднаго чарговага водаканала – недзе пад Рыбінскам. Там і загінуў. Праз 50 з нечым гадоў пасля арышту рэабілітавалі – 16 студзеня 1989 года. Цяпер у ваколіцах Рыбінска створана некалькі мемарыялаў у знак памяці рэпрэсаваных. Можа, дзе выбіта і імя простага селяніна Аляксандра Іосіфавіча Сушко...

– А за што спытайцеся?! – кажа далей Аляксандр Аляксандравіч. – За што забралі?! За тое, што быў сынам батрака. За тое, што быў старшынёю камітэта беднаты. За тое, што дзяліў панскія і царкоўныя землі. За тое, што даў жыццё пасёлку Крынічкі... Знайшліся «ўдзячныя» людзі. Раз узялі. Патрымалі. Выпусцілі. Праз паўтара гады ізноў арыштавалі. Далі дзесяць гадоў... Як бы цяжка ні было, а хацелася з-пад цяжару ўсяго дрэннага вырвацца. Прыкладам былі маміны браты. Усе – настаўнікі Бродскія. Асабліва вылучаўся сярод іх Іосіф Бродскі.

*«Угалец, вёска ў Турынскім сельсавеце, за 15 км на паўночны ўсход ад раённага цэнтра і ад чыгуначнай станцыі Пухавічы на лініі Мінск – Асіповічы. У XIX – пачатку XX ст. у Пухавіцкай воласці Ігуменскага павета Менскай губерні, уласнасць Ратынскіх. Паводле перапісу 1897 г. – 69 двароў, 458 жыхароў, працаваў хлебазапасны магазін. На пачатку XX ст. – 77 двароў, 502 жыхары. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на базе вучылішча адкрыта працоўная школа 1-й ступені, у якой у 1922 г. вучыліся 70 хлопчыкаў і дзяўчынак, працавалі 2 настаўнікі. У 1930-х гг. створаны калгас «Чырвоны сцяг», дзейнічала кузня. З канца чэрвеня 1941 г. да 2.07. 1944 г. акупавана нямецка-фашысцкімі захопнікамі . У наваколлі дзейнічалі партызанскія брыгады «Полымя» і 1-я Мінская, Пухавіцкі падпольны райкам КП(б)Б. Вызвалены 46-м стралковым корпусам 3-й арміі 1-га Беларускага фронта. На 1.01. 2002 г. – 48 двароў, 72 жыхары.»*

***(З гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць. Пухавіцкі раён»)***

– Прыгожае прозвішча, Аляксандр Аляксандравіч... Здаецца, зусім не беларускае...

– Антэк Бродскі – дзед па маці, паляк. Але ж колькі ўсіхняй крыві ў беларусах!.. Мы ж – у цэнтры шляхоў-дарог!..

З 1944 года Аляксандр Аляксандравіч Сушко – у Чырвонай Арміі, на фронце ў пяхоце. Прапоўз-прайшоў сотні баявых кіламетраў. Два разы паранены. Кантужаны. Пад самы канец вайны прысыпаны зямлёю ў акопе-ячэйцы. За ратную салдацкую працу – і салдацкія ўзнагароды: медалі «За адвагу», «За баявыя заслугі»... Нядаўна да гэтых медалёў ды юбілейных адзнак дадаўся і медаль Жукава. Уганаравалі ім па справядлівасці – ваяваў салдат Сушко на 1-м Беларускім, жукаўскім, фронце.

І заўсёды гэта памятае. А як дарагую рэліквію трымае ў сябе дома кнігу Анатоля Сульянава «Маршал Жукаў», якую вядомы пісьменнік і генерал падараваў асабіста салдату Аляксандру Аляксандравічу Сушко.

Пашчасціла ўсё ж Аляксандру Аляксандравічу... Адмераўшы няпростае жыццё, прайшоўшы франтавымі дарогамі, ён і сёння, дзякуй Богу, жывы, радуе гэтым сваіх трох сыноў – Лявонція, Аляксандра і Яўгена (усе трое са сваімі сем'ямі жывуць у Мар'інай Горцы, часта гасцююць у бацькі ў вёсцы Угалец).

Шмат хто з угалецкіх з вайны не вярнуўся. Загінулі ў партызанах Павел Лук'янавіч Кляўко, Васіль Мікітавіч Шынкарык, Іван Андрэевіч Савіч, Аляксей Іванавіч Кляўко, Іван Цімафеевіч Епімашка, Уладзімір Апанасавіч Вераскоўскі, Міхаіл Апанасавіч Вераскоўскі, Іосіф Дзям'янавіч Карнейчык, Уладзімір Іосіфавіч Карнейчык, Мікалай Васілевіч Карнейчык, Мікалай Іванавіч Кляўко... На шчасце, жывуць яшчэ ва Угальцы ветэраны вайны. Іх няшмат: Іван Лявонцьевіч Карэлы ( партызан, франтавік, узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі), партызаны Іван Карнейчык, Іван Атрашэўскі, Соня Савіч... Лічаныя, як кажуць, людзі. Час нікога не шкадуе.

Ва Угальцы некалі на будынку школы (яе ўжо няма, зачынілі, як і добры тузін пачатковых школ раёна – каму ж тут у іх хадзіць?! – а да вайны, кажуць, ва Угальцы нават сямігодка была) вісела мемарыльная дошка як сведчанне таго, што ў вёсцы базіраваўся Пухавіцкі падпольны райкам КП(б)Б. Пазней дошку перанеслі на адзін з дамоў. А яшчэ пазней нехта яе скраў. Звычайнае ўсебеларускае стаўленне да гістарычнай памяці. Вандалізм не толькі матэрыльны, але і духоўны.

На выездзе з Угальца вока чапляецца за доўгую, «шматвокую» хату. Паспяваем распытаць, чыя сядзіба... Аказваецца, даўнейшыя яе гаспадары – Ашэйчыкі. Мікалай Захаравіч Ашэйчык – генеральны дырэктар «Салігорскпрамбуда», заслужаны будаўнік Рэспублікі Беларусь, кавалер двух ордэнаў Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэна Пашаны, медаля «За працоўныя заслугі», ганаровы грамадзянін Салігорска – з гэтага роду, адзін з трох сыноў Захара Ашэйчыка, якому некалі належала гэтая доўгая прасторная хата.

*...Дабрацца да Мар'інай Горкі з Угальца можна рознымі маршрутамі. Мы туды дабіраліся, мінаючы Турын. Назад ехалі праз Светлы Бор. Пасля – праз Пухавічы і Блонь. Не так і далёка. Ва Угалец тры разы на тыдзень ходзіць аўтобус – у сераду, пятніцу і нядзелю. Раніцай і ўвечары. Пагадзіцеся, выключны камфорт па сённяшнім часе. У аўталаўцы патрэбы няма. Тут ёсць райспажыўсаюзаўская крама. Праўда, нядаўна яе абрабавалі. Ды спадзяёмся, гэта болей не паўторыцца, а злодзеі будуць абмінаць Угалец... А што да дарогі, то падчас яе думалася пра многія і многія таямніцы такіх, як Угалец, паселішчаў. Шкада, што тут мала моладзі, што рэдка чуваць у гэтых вёсках галасы школьнікаў. Старым людзям так хочацца пагаварыць, выказацца пра свой няпросты шлях, пра той век, у якім многае з перажытага, выпакутаванага імі назаўсёды так і застанецца. Ніводная папера, ніводнае кінематаграфічнае дзіва не здолее гэта перадаць. А што сённяшні век? Ён будзе лягчэйшым, меншым на пакуты альбо такім жа няпростым... Хаця няпросты ён ужо і цяпер. І адчуваючы многія бядоты-згрызоты часу, даўно ўжо паэт задаўся пытаннем, задаўся клопатам: «Я не знаю, что надо творить для спасения века...». Сапраўды, што трэба зрабіць, каб сённяшні час не аказаўся падобным да папярэдняга, таго ўчарашняга «века-волкодава»?..*

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

***Клаўдзія АСЕЕВА** – руская паэтэса, жыве і працуе ў Бранскай вобласці. Часта бывае на Беларусі, вывучае яе гісторыю, культуру, шмат перакладае з беларускай мовы на рускую.*

*Сёлета, у кастрычніку, у яе сонечны юбілей. Вiншуем, жадаем здароўя, добрага настрою і новых вершаў і перакладаў.*

***

Уздыхне вецярок на паляне,
І прыбачыцца: побач зноў мы.
Ды ў світальным жа хісткім
тумане
Растварыліся дзіўныя дні.
Горкі водар тваёй цыгарэты.

Дзве слязы, дзве маршчынкі
на лбе.
І зязюля па даўніх прыкметах
Лёс інакшы прадказвае мне.

Напрарочыць, надзею пасее...
І пайду па сцяжынцы лясной.
Дзікі звер да мяне падабрэе,
Стануць шчодрымі птушкі
са мной.

І падзеляцца небам і песняй.
Недасяжна мне іх вышыня...
Ды з былога ўсё роўна ўваскрэсне
Зноў тваё дарагое імя.

*Пераклад з рускай мовы Таісы МЕЛЬЧАНКА, г. Гомель*

## Лекцыі пра беларускія гарады

У межах Еўрапейскіх дзён Спадчыны гісторыка-культурнае таварыства БДУ культуры «ЭТНА» распачало серыю адкрытых лекцый па тэме «Беларускія гарады – асяродкі еўрапейскай культуры». Першая сустрэча прайшла 23 верасня ў чытальнай зале універсітэта. Вядомы навуковец Захар Шыбека распавёў пра старажытны Мінск.

Апроч лекцый, у сценах ВНУ працавала выстава, прысвечаная тагачаснаму гораду.

***Пра наступныя сустрэчы можна даведацца па тэлефонах 264-12-38, 776-24-35 (Павел), 234-15-84, 704-00-18 (Раман).***




### Вялікае княства Літоўскае

**1253.** Каранацыя Міндоўга.
**1258–1259.** Першы паход мангола-татараў на Беларусь.
**1314.** Знішчэнне нямецкіх рыцараў Давыдам Гарадзенскім.
**1317.** Заснаванне Літоўскай мітраполіі.
**1362.** Пераможная бітва з татарамі на Сініх Водах.
**1368–1372.** Паходы вялікага князя Альгерда на Маскву.
**1385.** Крэўская унія.
**1387.** Вільня першая з беларускіх гарадоў атрымала магдэбургскае права.
**1392.** Пачатак вялікага княжання Вітаўта.
**1399.** Загінуў апошні полацкі князь Андрэй Альгердавіч.
**15 ліпеня 1410.** Грунвальдская (Дубровенская) бітва.
**1413.** Гарадзельская унія.
**1468.** Статут Казіміра Ягайлавіча, першы збор законаў дзяржавы.
**1492.** Першая вайна Масковіі з Вялікім княствам Літоўскім.
**5 жніўня 1506.** Разгром татарскага войска пад Клецкам.
**8 верасня 1514.** Бітва пад Оршай.
**6 жніўня 1517.** Францішак Скарына выдаў у Празе першую друкаваную беларускую кнігу.
**1523.** Выйшла ў свет паэма Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра».
**1557.** Нарадзіўся Леў Сапега.
**1562.** Сымон Будны распачынае кнігавыдавецкую дзейнасць у Нясвіжы.
**Люты 1563.** Войска Івана Грознага захапіла Полацк.
**Студзень 1564.** Разгром маскоўцаў на рацэ Вуле.

### Сусветная гісторыя

**1254.** Утварэнне Рэйнскага хаўрусу гарадоў Нямеччыны.
**1314.** Скончыўся працэс супраць тампліераў.
**1315.** Перамога швейцарцаў над Габсбургамі каля Маргартэну.
**1319.** Нарвегія і Швецыя аб'яднаныя ўладай аднаго караля.
**1346.** Параза французаў у бітве пры Крэсі.
**1356.** Ганзейскія гарады ўтварылі агульны орган улады.
**1363.** Першае афіцыйнае выкарыстанне англійскай мовы ў англійскім парламенце.
**1374.** Кошыцкі прывілей Людвіка Вугорскага, які стварыў асновы шляхецкіх вольнасцей у Польшчы.
**1379.** Візантыя стала васалам Турцыі.
**1395.** Разгром Залатой Арды ханам Цімурам.
**1419.** Пачатак Гусіцкіх войнаў у Чэхіі.
**1444.** Разгром крыжакоў пад Варнаю турэцкай арміяй.
**1483.** «Вечны мір» паміж Францыяй і Ганзой.
**1492.** Калумб адкрыў Амерыку.
**1514.** Сялянская вайна ў Вугоршчыне на чале з Дожы.
**1517.** Пачатак Рэфармацыі ў Нямеччыне.
**1525.** Прылюднае спальванне кніг Скарыны ў Маскве.
**1541.** Туркі захапілі Буду.
**1560.** Пачатак рэлігійных войнаў у Францыі.
**1563.** Пачалася Сямігадовая вайна паміж Даніяй і Швецыяй.
**1564.** Нарадзіўся Вільям Шэкспір.
**1566.** Пачатак буржуазнай рэвалюцыі ў Нідэрландах.

**8 верасня 1514 года**

***На зыходзе 1512 года Маскоўская дзяржава распачала новую вайну за «исконно русские земли» – Беларусь і Украіну, якія пад уладаю Масковіі ніколі не былі.***

***Фарпостам Вялікага княства Літоўскага на ўсходзе быў старажытны беларускі горад Смаленск. У ліпені 1514-га яго ўзяло ў аблогу велізарнае 80-тысячнае войска маскоўцаў, папоўненае наймітамі з заходнееўрапейскіх краін. Па гарадскіх умацаваннях амаль беспярапынна білі трыста гарматаў. Ваявода Юры Салагуб капітуляваў.***

# Бітва пад Оршай

Натхнёны поспехам маскоўскі князь Васіль III кінуў свае войскі ўглыб Беларусі. Услед за Смаленскам здаліся ворагу Крычаў, Мсціслаў і Дуброўна. Крамлёўскі валадар быў настолькі ўпэўнены ў сваёй перамозе, што падчас адной з застоліц загадаў сваім ваяводам «войскі літоўскія і польскія з каралём да Масквы як быдла пугамі гнаць». Над дзяржаваю сапраўды навісла смяротная небяспека.

Вялікі князь Жыгімонт Стары здолеў сабраць пад свае сцягі ў Менску толькі 35 тысяч ваяроў. Тут былі 16 тысяч коннікаў паспалітага рушання Вялікага княства пад камандаваннем славутага гетмана Канстанціна Астрожскага, 14 тысяч польскіх конных жаўнераў, тры тысячы нанятай пяхоты і 2500 шляхціцаў-добраахвотнікаў з Польшчы. Жыгімонт з чатырохтысячным войскам застаўся ў Барысаве, а асноўныя сілы на чале з Астрожскім рушылі насустрач варожай ардзе. Пры канцы жніўня адбыліся першыя сутычкі з ворагам на рэках Бярэзіне, Бабры і Друці.

Пасля некалькіх паразаў расейскае войска спынілася паміж Оршай і Дуброўнай на рэчцы Крапіўне. Тут і адбылася генеральная бітва. Частка конніцы Астрожскага ўброд і наўплаў – без стратаў перапраўілася цераз Дняпро.

Астатнія коннікі, пяхота і артылерыя пераадолелі раку трохі вышэй, па таемна наведзеным наплыўным мосце. Палкі Канстанціна Астрожскага пачалі шыхтавацца насупраць стану маскоўцаў уначы з 7 на 8 верасня. У цэнтры гетман паставіў 16 тысяч ліцьвінскай конніцы, па баках – палякаў. Наперадзе былі сабраныя сама трапныя стралкі.

На досвітку пад гукі трубаў і бубнаў маскоўскія ваяводы Чаляднін і Булгакаў-Голіца павялі палкі ў першую атаку. Астрожскі звярнуўся да сваіх ваяроў з кароткай гарачаю прамовай: «Мужныя рыцары! Няхай доблесць і мужнасць вашы будуць вартыя слаўных бацькоў!..»

Няўдача першай атакі не надта збянтэжыла Чаляднiна і Голіцу: у іх была амаль трохразовая перавага – 80 тысяч супраць 30. Такая самаўпэўненасць саслужыла ваяводам дрэнную службу. Яны кепска ўзаемадзейнічалі і нават не лічылі патрэбным дапамагаць адзін аднаму. Калі ваяры Астрожскага ўдарылі па палках Булгакава-Голіцы, Чаляднін ад бою ўхіліўся, а калі ўдар абрынуўся на ягоных ваяроў, Голіца адплаціў тым самым.

Спроба абысці нашае войска і наляцець з тылу не ўдалася, і пасля паўдня маскоўскія ваяводы кінулі на праціўніка галоўныя сілы. Сеча дасягнула найвышэйшага напалу. Гетман быў сярод сваіх жаўнераў. Ягоная ўзнятая над галавою булава дадавала мужнасці слабейшым.

І раптам здарылася нечаканае: конніца Астрожскага завагалася, спыніла націск, а потым і наогул пакацілася назад. Расцягнутыя баявыя парадкі маскоўцаў з пераможнымі крыкамі перайшлі ў наступ. Колькі хвілінаў коннікі і сапраўды ўцякалі, а тады знячэўку крута павярнулі ўбок. Расейская дваранская конніца апынулася перад пакінутымі ў засадзе гарматамі.

Смяротны град артылерыі спыніў атаку. Чужынцы, збіваючыся ў бязладныя натоўпы, замітусіліся і паказалі нядаўнім «уцекачам» спіны. Конніца Астрожскага рассекла сціжму заваёўнікаў на часткі і рассеяла іх па шырокім прырэчным полі.

Ворагаў гналі і секлі яшчэ пяць вёрстаў. Вада ў Крапіўне пачырванела ад крыві і, паводле падання, выйшла з берагоў, бо целы мноства забітых загацілі раку. Шмат хто з заваёўнікаў знайшоў бясслаўную смерць у Дняпры, у навакольных лясах і балотах.



*Найвышэйшы гетман Астрожскі (1-я пал. XVII ст., невяд. маст.)*

Летапісы і хронікі паведамляюць, што маскоўская рацьстраціла забітымі блізу 40 тысяч. Чаляднін, Булгакаў-Голіца і яшчэ восем ваяводаў трапілі ў палон. Разам з імі ў руках пераможцаў апынуліся дзве тысячы «дзяцей баярскіх» і тры тысячы шэраговых воінаў. Прыгаломшаны весткаю пра поўны разгром свайго войска, Васіль III абвясціў, што ўсе палонныя для яго – мёртвыя, і кінуў іх на выра́к лёсу. Булгакаў-Голіца вярнуўся ў Масковію толькі ў 1552 годзе.



*Пачатак бітвы (з гравюры 1597 г.)*

Аршанская бітва стала адной з найбуйнейшых у Еўропе XVI стагоддзя. Бліскучая перамога нашае зброі аддала ініцыятыву вайны ў рукі Вялікага княства Літоўскага.

Усе захопленыя маскоўцамі гарады, апрача Смаленска, былі вызваленыя. Пачаў развальвацца накіраваны супраць Вялікага княства Літоўскага і Польшчы таемны альянс Масковіі ды еўрапейскіх дзяржаў. Крымскія татары, уражаныя перамогаю пад Оршай, на два гады спынілі набегі на княства і павярнулі сваіх коней у бок Масквы.

У снежні 1514 года вялікі гетман Канстанцін Астрожскі трыумфальна ўступіў у сталіцу нашай дзяржавы Вільню. У гонар перамогі на ягоныя сродкі там былі збудаваныя праваслаўныя храмы святой Тройцы і святога Мікалая, якія захаваліся дагэтуль.

Апісанне бітвы пад Оршай змешчана ў «Хроніцы» Мацея Стрыйкоўскага. Праз некалькі гадоў пасля перамогі невядомым мастаком было створана маляўнічае батальнае палатно, на якім адлюстраваны адзін з эпізодаў сечы. На карціне, што захоўваецца цяпер у Нацыянальным музеі ў Варшаве, можна ўбачыць баявыя бел-чырвона-белыя сцяжкі беларускіх ваяроў. Гэта першая па часе выява нашага нацыянальнага сцяга.

Памяць пра слаўную перамогу ўвасобілася і ў старадаўняй беларускай народнай песні («Ой, у нядзельку параненька...», якая і цяпер выконваецца рознымі спевакамі. – **«КГ»**).

***Уладзімір АРЛОЎ***

***Краязнаўцы Клімавіцкага раёна ў 2000 годзе выдалі кнігу «Зямля, дзе пачаўся мой лёс». З гісторыі паходжання назваў вёсак Клімавіцкага раёна», якую даслалі нам. Знаёмім чытачоў «Краязнаўчай газеты» з вытрымкамі з яе.***




### Асмолавічы

З далёкіх часоў жыхары гэтай мясцовасці гналі смалу. Гэта было іх асноўным заняткам. Смалакурня мясцілася ў равах. Першым уладальнікам яе быў Павел Аўсіевіч, і празвалі яго Асмалоўскім. Вось адсюль і пайшло гэта прозвішча да нашчадкаў. І паселішча стала называцца Асмолавічамі. А многія жыхары і сёння носяць прозвішча Асмалоўскія.

**Запісала З. АСМАЛОЎСКАЯ**

### Вёсцы Асмолавічы-2 больш за 470 гадоў

...Перад намі серыя старадаўніх дакументаў, якія захоўваюцца ў адным з ленінградскіх архіваў. Яны сведчаць, што ў Мсціслаўскі земскі суд у 1769 годзе ўладальнікамі вёскі Асмолавічы былі прадстаўлены дакументы. У адным з іх сказана, што рашэннем караля Польшчы Сігізмунда І 5 кастрычніка 1512 года жыхару сяла Асмолавічы Паўлу Аўсеевічу Асмалоўскаму аддадзена ва ўладанне «вечнае» сяло Асмолавічы са ўсімі службамі, Палямі, Шумі Борам, Гірзевічамі і іншымі землямі. Так што жыхары вёскі павінны ведаць: іх вёсцы па меншай меры 470 гадоў з таго часу, калі яна ўпершыню ўпамінаецца ў гістарычных дакументах.

Дакумент ад 20 снежня 1581 года сведчыць аб «палюбоўным» судзе паміж Паўлам Аўсеевічам Асмалоўскім з-за «зямлі клыпенскай» з Клімавіцкім стараствам. Былі «ўкапаны канцы, прыкметная граніца зроблена непадалёку ад рачулкі Калініцы». Гэта значыць, што ў 1581 годзе была не толькі вёска Клімавічы, яна ж з'яўлялася і цэнтрам стараства.

**М. МЕЛЬНІКАЎ, «Новае жыццё», 16 ліп. 1983**

### Барсукі

Як сведчыць легенда, гэта назва пайшла з далёкай даўніны. Сярод дрымучых лясоў і балот, праз якія нельга было прайсці ні чалавеку, ні звяру, знаходзілася мястэчка, непадалёку ад якога вяліся маленькія звяркі – барсукі. Таму паселішча і сталі называць спачатку Барсуковішча, а потым і проста Барсукі.

**Запісала Л. БЯЛОВА**

Магчыма, паходжанне назвы Барсукі ад мянушак ці прозвішчаў людзей (параўнальна – прозвішчы Собаль, Вокунь і інш.).

### Бухоўка

Магчыма, што назва вёскі паходзіць ад слоў «бух», «бухала» – дыялектная назва птушкі бугая (па-руску – выпь).

**Запісаў М. ДУКТАЎ**

*Школьнае краязнаўства*

# Партызанская грэбля

***Навучэнцы Мінскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа (МДПК) пад кіраўніцтвам Л.А. Смольскай і В.М. Мацюк ажыццявілі паход па партызанскіх сцежках Пухаўшчыны. Цэнтрам вывучэння партызанскага руху ў Беларусі ў час Вялікай Айчыннай вайны была выбрана вёска Гарэлец. У гэтых мясцінах у гады фашысцкай акупацыі савецкія людзі здзейснілі многа патрыятычных учынкаў, упісаўшы гераічныя старонкі ў гісторыю краю.***

Члены клуба «Пошук» пазнаёміліся з былым партызанам атрада імя Сталіна І.Г. Бабуком, які жыве цяпер у Мінску. Яны вырашылі пабываць у мясцінах, дзе прайшло гераічнае юнацтва Івана Гаўрылавіча, а таксама пазнаёміцца і з іншымі ўдзельнікамі партызанскага руху і жыхарамі гэтага слаўнага і легендарнага краю. У паходзе прымалі ўдзел 20 чалавек, абавязкі кожнага былі размеркаваны загадзя, таму паход прайшоў арганізавана і плённа. Аднак пра ўсё па парадку.

Да Мар'інай Горкі ўдзельнікі пахода дабіраліся на электрычцы і выйшлі на станцыі Пухавічы. Адсюль у Гарэлец ходзіць маршрутны аўтобус. Члены клуба «Пошук» прадоўжылі на ім свой шлях і праз 40 хвілін былі ўжо на месцы.

Усіх, хто прыехаў, шчыра сустрэла намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце Гарэліцкай базавай школы Людміла Мікалаўна Саранава. Размясціўшы рэчы ў школе, пасля адпачынку накіраваліся ў мясцовы клуб, дзе выступілі з канцэртам для мясцовых жыхароў, сярод якіх прысутнічалі і школьнікі.

Канцэрт усім спадабаўся, цёпла ўсе віталі навучэнку МДПК Вікторыю Мудрацову, якая прачытала верш на роднай мове, Яўгенія Кірпічэнку, які выканаў пад акампанемент гітары песню. Размова зайшла пра каледж, пра спецыяльнасці, якія ў ім можна атрымаць. Выкладчык В.М. Мацюк правяла гутарку па прафарыентацыі і запрасіла выпускнікоў школы на вучобу ў каледж.

Потым была дыскатэка, дзе мясцовыя школьнікі выступілі са сваім канцэртам і адбылося больш цеснае знаёмства гасцей з гаспадарамі.

Члены клуба «Пошук» наведалі Гарэлецкую сельскую бібліятэку, дзе пазнаёміліся з выставай прадметаў народнага побыту на вёсцы, а бібліятэкар Галіна Цімафееўна Малахава пазнаёміла экскурсантаў з народнымі традыцыямі і абрадамі. Яна расказала, як сяляне на сваіх вузенькіх палосках зямлі апрацоўвалі лён, затым рвалі яго, насенне абівалі пранікам, мачылі, мялі, трапалі, часалі, пралі і ткалі. Увесь працэс апрацоўкі праходзіў у хатніх умовах, людзі ў вёсцы жылі толькі са сваёй гаспадаркі.

Усе прыстасаванні, якімі карысталіся сяляне пры апрацоўцы льну, прадстаўлены на выставе ў бібліятэцы.

Гэтымі прыстасаваннямі побыту карысталіся зусім нядаўна, якіх 60 гадоў таму, калі эканоміка Беларусі была разбурана жорсткай вайной.

Навучэнцы і выкладчыкі МДПК з цікавасцю разгледзелі экспанаты выставы, уважліва паслухалі паведамленні экскурсавода. Сардэчна падзякаваўшы за экскурсію, члены клуба «Пошук» накіраваліся ў школу. Па дарозе дзяліліся ўражаннямі.

Каб не турбаваць гаспадароў, навучэнцы рашылі разбіць лагер з намётаў у лесе недалёка ад вёскі Гарэлец. Выбраўшы сухое высокае месца сярод сосен, яны ўстанавілі чатыры намёты. А якой смачнай была вячэра, прыгатаваная на кастры! Адпачынак спадабаўся ўсім. Потым была дыскатэка ў Гарэлецкай школе, ціхія гутаркі, юнацкія песні каля кастра і бесклапотная весялосць. Позна вечарам ўсе разышліся па намётах, і ў лагеры ўсталявалася цішыня.

На свежым паветры раніцай доўга спаць не будзеш. З усходам сонца ўсе былі на нагах, хуценька паснедалі і накіраваліся ў вёску.

У музеі партызанскай славы на карце ўстанавілі месца дыслакацыі партызанскага атрада імя Сталіна і пазнаёміліся з пісьмом бацькі юнага партызана Аляксандра Антонавіча Варывончыка, які прасіў папраўдзь магілу сына і аднавіць надпісы.

Вёска Забалоцце, дзе быў пахаваны юны партызан А.А. Варывончык, знаходзіцца ў пяці кіламетрах ад вёскі Гарэлец. Правесці членаў клуба «Пошук» вырашылі мясцовыя хлопцы Жэня Ярашэвіч, Аляксандр Шабіцкі, Уладзімір Якавіцкі і Сяргей Герман. Усе дружна крочылі па лясной дарозе, пакуль не натрапілі на балота, дзе дарога вымашчана тонкімі бярвеннямі. Гэта была так званая беларуская грэбля, па якой праходзілі партызаны ў час вайны.

У хуткім часе забалочаны кавалачак дарогі прывёў усіх да Партызанскай сасны, якая расце каля дарогі, што вяла да былой вёскі Забалоцце. Сасна вельмі высокая і вялікая ў дыяметры, нанесена на многія турыстычныя карты і ахоўваецца законам як гістарычны помнік. Каля Партызанскай сасны быў зроблены здымак на памяць.

На месцы былой вёскі зараз узарана поле, якое з усіх бакоў абступае лес.

У вёсцы ў пачатку вайны было 14 хат, 2 з іх пуставалі. Іх і выкарыстоўвалі партызаны некаторы час. У 1944 годзе фашысты спалілі вёску датла як партызанскую, і больш яна не ўзнавілася. Да месца былой вёскі можна дабірацца і з боку дарогі Мар'іна Горка – Шацк, звярнуўшы на 11-м кіламетры ўлева і праз 3 кіламетры выйсці на яго.

У тым раёне ў час вайны знаходзілася рота партызанскага атрада імя Сталіна. Атрад, які складаўся з 3 рот, быў разгрупаваны з мэтай канспірацыі на значнай тэрыторыі ад Гарэлец да вёскі Бор і вёў баявыя дзеянні ў раёне Мар'інай Горкі. Камандзірам атрада быў Уладзімір Пятровіч Адамовіч. Штаб атрада знаходзіўся ў вёсцы Лінск (2 кіламетры ад Гарэльца). Рота атрада знаходзілася ў вёсцы Забалоцце, як і мела лясны лагер за 1,5 кіламетра ад вёскі, дзе партызаны абсталявалі зямлянкі на ўзгорачку сярод балот.

На ўскрайку былой вёскі знаходзіліся магілкі, якія ўзніклі ў час вайны, дзе былі пахаваны загінулыя партызаны і мясцовыя жыхары, з якімі распраўіліся карнікі.

Старажылы вёскі Навасёлкі памятаюць яшчэ, што адразу пасля вайны ў час урачыстасцяў гэтае месца было цэнтрам, дзе збіраліся былыя партызаны і мясцовыя жыхары. Людзі дзяліліся ўспамінамі і ўспаміналі загінулых суайчыннікаў.

Пенсіянер Мікалай Рыгоравіч Захараў пацвердзіў, што апошні раз быў у Забалоцці на такіх урачыстасцях каля 20 гадоў таму. Тады яшчэ былі 4 магілы: адна – брацкая, юнага партызана А.А. Варывончыка і дзве – мясцовых жанчын, якія загінулі ад рук карнікаў. Магілкі ў той час былі дагледжаны, з надпісамі і агароджай.

У нашы дні ўдалося знайсці з дапамогаю хлопцаў з суседняй вёскі Гарэлец рэшткі дзвюх магілак – брацкай і А. А. Варывончыка. Яны былі без агароджы і якіх-небудзь знакаў. Толькі брацкая была абкладзена камянямі. Гэтак жа хлопцы абклалі і магілу юнага партызана, а на самым вялікім камені зрабілі надпіс: «А.А. Варывончык. 1927–1944. Партызан».

На брацкую магілу была прымацавана чырвоная зорка без надпісу, бо ў той час прозвішчы пахаваных там людзей не былі яшчэ вядомы.

Звярнуліся да сведкі ваенных гадоў Антона Сцяпанавіча Козака і той сказаў, што ў брацкай магіле пахаваны мужчыны, жыхары былой вёскі Забалоцце – ахвяры акцыі карнікаў. Іх у магіле пяць ці шэсць чалавек, сярод якіх Канстанцін Кіргат, Андрэй Саціноўскі, Комар, астатніх А.С. Козак не памятае. Па дадзеных кнігі «Памяць. Пухавіцкі раён», усяго ў гэтай вёсцы ў час вайны фашыстамі было знішчана 10 мірных жыхароў.

Недалёка ад могілак, якія знаходзяцца сярод бяроз на ўзлеску, хлопцы замацавалі на адной з бяроз памятны знак з тэкстам: «Тут у час Вялікай Айчыннай вайны дыслацыраваўся партызанскі атрад імя Сталіна. Навучэнцы Мінскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа. 2004 г.».

І зноў фотаздымак на памяць... З разуменнем важнасці выкананай работы члены клуба «Пошук» вярнуліся ў вёску Гарэлец.

Пасля кароткага адпачынку яны накіраваліся ў музей Партызанскай славы.

Былы настаўнік школы і партызан, які змагаўся ў гэтых мясцінах, а цяпер пенсіянер і кіраўнік музея Сяргей Іванавіч Сілач правёў экскурсію, выклікаўшы ў наведвальнікаў вялікую цікавасць да падзей ваеннага часу ў вёсцы Гарэлец і раёне вакол яе. Ён пазнаёміў прысутных з экспанатамі, з дакументальным і фактычным матэрыялам па гісторыі партызанскага руху ў гэтым краі. На сценах вывешаны стэнды з фотаздымкамі, дакументамі, картамі. Асаблівую ўвагу выклікаюць два электрафікаваныя макеты – панарамы, якія з мастацкім густам аформлены, з фантазіяй. На першай панараме – фрагмент вёскі Гарэлец, калі карнікі прыходзілі сюды і чынілі расправу над мірнымі жыхарамі, расстрэльвалі іх і палілі іх будынкі.

На другой – партызанскі лагер, дзе размяшчаюцца зямлянкі, шпіталь, штаб і ўсё астатняе, што неабходна для пражывання ў палявых умовах. Экскурсанты ўбачылі ў С.І. Сілачы творчага і ўлюбёнага ў сваю справу чалавека, параніліся вялікай сімпатыяй і павагай да яго.

Пакінуўшы падзяку-запіс у журнале для наведвальнікаў, члены клуба «Пошук» накіраваліся на аўтобусны прыпынак. Праводзіў іх дырэктар Гарэлецкай базавай школы Аляксандр Уладзіміравіч Рунец. Навучэнцы каледжа шчыра падзякавалі яму за цёплы прыём. Удзельнікі пахода на чыгуначную станцыю Пухавічы даехалі маршрутным аўтобусам, а адтуль на электрычцы ў Мінск.



*Партызанская сасна*



*Гуртхоўцы каля магілы А. Варывончыка*

***Мікалай ГУРЫН, краязнаўца***








Фота Міхася ХАМ

# Старадаўнія прафесіі

**(Раздзелы з кнігі)**

## Жароншчыкі

Сёння хіба толькі ў музеі можна пабачыць гэту дзіўную канструкцыю з камня і дрэва. Але не ўсе ведаюць, што гэта такое. А гэта вельмі патрэбная і неабходная рэч у хатняй гаспадарцы – жорны.

Сям-там яшчэ нядаўна ў старажылаў можна было пабачыць закінутыя як непатрэбныя хатнія ручныя млыны, што якраз і называліся жорнамі.

Прафесія жароншчыкаў была не вельмі распаўсюджаная, а таму надзвычай цанілася людзьмі: чалавек майстраваў механізм, што выпрабляў асноўны прадукт – муку. Дасведчаны майстар з палявых валуноў пэўных пародаў зубілам і малатком высякаў два кругі аднолькавага дыяметра, якія для трываласці па акружнасці сцягваліся металічнымі абручамі. Пасля на каменных кругах – жорнах – з аднога боку наносілі насечкі. Больш масіўны ніжні круг ляжаў нерухома, а верхні, які круцілі, быў лягчэйшым. Парныя жорны змяшчалі ў драўляны станок-кораб стандартнай канструкцыі. Спецыяльным прыстасаваннем верхні камень пры патрэбе мог прыпадымацца альбо апускацца, што дазваляла рабіць муку патрэбнага размолу. Верхні камень уручную круцілі з дапамогаю спецыяльнага прыстасавання – палі-ручкі, замацаванай адным канцом да краю жарона (да металічнага абруча), другі – з дапамогаю сырамятных рамянёў да крука прама пад цэнтрам жарона. Абодва камяні былі замацаваныя на металічнай восі.

Асабліва шырока жорны прымянялі для вырабу асыпкі хатнім жывёлам. Апроч гэтага, вялікая частка вёсак і мястэчкаў малола на жорнах грубаватую крупу, асабліва ячную і грэчкавую. Звычайна аднымі жорнамі карысталіся некалькі суседзяў. Цяжка пераацаніць тую вялізную дапамогу, якую аказалі жорны многім сем'ям гараджанаў у гады акупацыі і ў доўгі пасляваенны час.

Карысталіся каменнымі жорнамі не толькі дома. Доўга іх скарыстоўвалі на млынах усіх відаў – ветраках, вадзяных, механічных (паравых). Для такіх млыноў жорны рабілі вялікіх памераў, што патрабавала ад майстра-жароншчыка і спрыту, і майстэрства, і ведаў пры апрацоўцы круглых каменных глыбаў. Былі спецыяльныя майстэрні, міні-фабрыкі па вытворчасці каменных жорнаў. Напрыклад, у Баранавічах – таварыства «Мукомол» (вытворчасць штучных жорнаў).

Самым вядомым і лепшым жароншчыкам у Лунінцы быў Вінабар, па мянушцы Мэрыканец. Ён сапраўды пэўны час жыў у Злучаных Штатах Амерыкі – выехаў туды на заробкі яшчэ ў XIX стагоддзі. Перад Першай сусветнай вайной вярнуўся ў Расійскую імперыю і абжыўся ў Лунінцы. Наняўся на працу да млынара Фінкеля. Тут жа непадалёк Вінабар у 20-х гадах паставіў вялікі драўляны дом (казалі, што з Амерыкі вярнуўся ён не з пустымі рукамі), будаўніцтва якога чамусьці не было завершана. Дом згарэў падчас вайны. У ЗША Вінабар засвоіў некалькі рэдкіх і патрэбных на той час спецыяльнасцяў – па-майстэрску рабіў жорны, рамантаваў і аднаўляў крупадзёркі, маслабойкі, ведаў машыны, што рабілі пражу – часальныя, круцільныя, лушчыльныя, умеў віць вяроўкі і канаты і г.д. Усе млыны навокал карысталіся паслугамі Мэрыканца.

*Леў КОЛАСАЎ*

*(Працяг будзе)*

(Пачатак у № 16)

# Пачаткі геаграфіі беларускай ад Кіркора

*(Заканчэнне. Пачатак у № 36)*

## Спадчына навукоўца

Вяртаючыся да геаграфічнай спадчыны Адама Кіркора, неабходна адзначыць, што ў час, калі ён заняўся геаграфіяй Беларусі, межы беларускага этнасу былі размытыя і невыразныя; звычаі народа, ягоныя працоўныя навыкі і духоўная культура вывучаныя вельмі слаба; пра эканамічныя сілы краю, апроч паведамленняў паліцэйскай статыстыкі, таксама было мала што вядома.

Існавалі, праўда, кароткія апісанні заходніх ускраінаў імперыі ў падручніках Я. Зяблоўскага і К. Арсеньева, былі разрозненыя геаграфічныя працы па асобных губернях, апісанні падарожжаў і г. д. Але цэльнай этнагеаграфічнай карціны да часоў А. Кіркора не было – менавіта ён па-навуковаму ўзнавіў геаграфічнае аблічча Беларусі.

Адам Смоліч, высока ацэньваючы працы Кіркора, кідае папрок, што той дае сваю геаграфічную характарыстыку беларускага народа не ў адным этнічным масіве, а разбівае на дзве групы губерняў – з перавагаю рускага і літоўскага насельніцтва. Папрок у цэлым справядлівы, але трэба ўлічваць, што тады дакладнага ўяўлення пра этнічныя межы беларусаў не было. На вядомай этнаграфічнай карце П.П. Кёппена (1851) мясцовасці з рускім, украінскім і беларускім насельніцтвам былі пакінутыя незафарбаванымі. Вось, напрыклад, што мы чытаем у П. Сямёнава-Цян-Шанскага: «Пад імёнамі беларускіх губерняў зазвычай разумеюць толькі тры губерні заходняй Расіі, а менавіта: Мінскую, Магілёўскую і Віцебскую, у якіх сапраўды народныя масы ў асноўным належаць да беларускага племені. Але, пры групаванні ўсіх губерняў імперыі, для зручнасці іх разгляду ў натуральных культурна-гістарычных адносінах мы аднеслі да Беларускай вобласці і губерню Смаленскую». Далей аўтар матывуе сваё раяніраванне тым, што «большая частка Смаленскай губерні нічым не адрозніваецца ад самых тыповых вобласцяў Беларусі».

Як бачым, нават даследчык такога маштабу, як П. Сямёнаў-Цян-Шанскі, апускае той факт, што дастаткова кампактныя масы беларускага насельніцтва жывуць у Віленскай, Гродзенскай, Беластоцкай і Чарнігаўскай губернях. Заслуга А. Кіркора якраз у тым, што ён у шэрагу сваіх прац паспрабаваў выдзеліць масівы беларусаў. Напрыклад, вельмі дэталёва апісаў паўднёвыя межы расселення летувісаў, чым з вялікаю дакладнасцю абазначыў паўночныя межы Беларусі. У губернях, якія былі часткова заселеныя беларусамі, прааналізаваў нацыянальны склад насельніцтва па паветах і абазначыў сапраўдныя межы расслялення беларусаў, латышоў, летувісаў, рускіх, украінцаў і палякаў. Уласна кажучы, толькі пасля ягоных прац стала відавочным, што варта разумець пад Беларуссю ў плане тэрытарыяльным; далейшыя этнаграфічныя даследаванні толькі ўдакладнялі складаныя межы пераходу з непазбежнымі ўкрапленнямі суседніх народнасцей у асноўны масіў беларускай тэрыторыі і наадварот... Акрамя таго, у сярэдзіне XIX стагоддзя былі надзвычай шырока распаўсюджаны разнастайныя мясцовыя назвы: чарнарусы, палешукі, пінчукі, дзейнаўцы, тудаўцы і г.д. Наконт гэтага А. Кіркор пісаў: «...Але этнограф, як у побытавых, так і ў агульных узаемінах, дарэмна будзе шукаць рэзкіх адрозненняў між беларусамі і чарнарусамі. Калі яны і былі, то даўно згладзіліся, і мы цяпер можам прымаць іх за адзін народ». Тое, што сказана ў адносінах да чарнарусаў, яшчэ ў большае ступені тычыцца драбнейшых груп. Ідэя адзінства беларускай нацыі, нягледзячы на мясцовыя адрозненні, заўсёды і абавязкова прысутнічала ў творах Адама Кіркора.

Абараняючы свой народ і прапагандуючы ягоную культуру, навуковец даў варты адпор тым рэакцыйным гісторыкам, якія адлюстроўвалі беларусаў як разумова адсталую нацыю. Ён заяўляў: «Мы не раз указвалі і стараліся давесці, што як разумовае развіццё, так і грамадзянскасць у Літве і Беларусі да зліцця з палякамі зусім не былі ў такой нізкай ступені, як тое пішуць некаторыя гісторыкі... Як у адносінах да разумовых здольнасцяў, так і ў мужнасці, сіле характару, вытрымцы і цвёрдасці; наадварот, яны не толькі ніколі не саступалі палякам у гэтых якасцях, але часта нават пераўзыходзілі іх». Але разумовая абарона годнасці свайго народа ніколі не даводзіла А. Кіркора да месніцкага нацыяналізму, да непавагі да іншых нацый і культур. Чалавек надзвычай талерантны, у творах ён не раз падкрэсліваў блізкасць беларусаў, украінцаў і рускіх.

Пад уплывам ідэй Герцэна і Чарнышэўскага ў сваіх працах А. Кіркор праводзіць лінію размежавання між тлятворным уплывам вялікарасійскага паліцэйска-чыноўнага дэспатызму і дабратворным уплывам рускага народнага характару і рускай культуры. Ён зусім невыпадкова на старонках аднаго са сваіх твораў падае загад М. Кутузава пры ўваходзе рускага войска ў Беларусь падчас выгнання полчышчаў Напалеона.

«Вступая с армией в Белоруссию, – абвяшчаў фельдмаршал, – ... я нахожу нужным всем армиям, мною предводительствуемым, строжайше воспретить всякий дух мщения и нарекания в чем-либо жителям белорусским, тем паче причинения им обид и притеснений. Напротив, да встретят они нас, яко соотчичи и подданные всемилостивейшего государя нашего, братьев, защитников от общего врага и утешителей во всем том, что они потеряли в краткую бытность под игом чуждой и насильственой власти, и с пришествием нашим да воцарятся между ними тишина и спокойствие».


ЖИВОПИСНАЯ

РОССІЯ.

ОТЕЧЕСТВО НАШЕ

П. П. СЕМЕНОВА,

ТОМЪ ТРЕТІЙ.

ЧАСТЬ ПЕРВАЯ.

ЛИТОВСКОЕ ПОЛѢСЬЕ.

ЧАСТЬ ВТОРАЯ.

БѢЛОРУССКОЕ ПОЛѢСЬЕ.

Далей А. Кіркор тлумачыць, што польская шляхта Літвы і Беларусі падтрымала Напалеона ў ягоным паходзе на Маскву і ад яе можна было запатрабаваць сатысфакцыю. Але рускі палкаводзец папярэджвае войска ад любых праяваў злосці...

Кіркору была ўласцівая зацікаўленасць да народнай працы, выпрацаванымі стагоддзямі спосабам і метадам гаспадарання. Навуковец адзначае выключную цяжкасць сырой, туманнай прыроды Прыпяцкага Палесся – краю з вялікімі лясамі, непралазнымі балотамі, у якіх аднолькава гіне чалавек і звер. І захапляецца: «Пасяліце на берагах Прыпяці з іншых краінаў пасяляніна – ён прападзе. Паляшук жа адпаведна ані дбае». І далей аўтар па-майстэрску паказвае, што знешне кансерватыўная гаспадарка мясцовага жыхара настолькі дакладна прыстасавана да прыроды, што дазваляе селяніну пераадольваць нават самыя грозныя прыродныя стыхіі і выжываць у надзвычай неспрыяльныя гады. «Сама прырода паказала палешуку шляхі для ягонай нястомнай дзейнасці. Яна зрабіла яго земляробам, паляўнічым, рыбаловам. Можа стацца, што ў палешука ў неўраджайны год не хопіць хлеба, але ў дзічыне і рыбе нястачы ў яго не будзе ніколі. Дадайце да гэтага вялікую колькасць грыбоў, якія сушыць і соліць, разнастайных ягадаў, арэхаў, урэшце багата мёду...» З гэтага мы бачым, што, нягледзячы на адчужанасць Палесся ад усяго свету, на замкнутае ягонае жыццё сярод балотаў і водных разліваў на цэлыя месяцы, жыццё палешука ў матэрыяльным плане было дастаткова забяспечаным і нават пры існаванні прыгоннага права давала яму шмат сродкаў зарабіць...

Геаграфічная абумоўленасць спецыялізацыі гаспадаркі прадстаўлена ў працах А. Кіркора вельмі шматгранна і яскрава.

*У невялікім артыкуле немагчыма асвятліць усе праблемы геаграфіі гаспадаркі і этнагеаграфіі, якія разглядае ў сваіх творах Адам Кіркор. Адзначым толькі, што ягоная геаграфічная спадчына вельмі вялікая, але пакуль мала распрацаваная: яна чакае яшчэ сваіх даследчыкаў. Праўда, адно зразумела дакладна – у выніку дзейнасці А. Кіркора геаграфія гаспадаркі і этнагеаграфія Беларусі набылі свае дакладныя абрысы, апісальны элемент эканамічнай геаграфіі ў ягоных працах дасягае максімальных межаў. Пазней гэты навуковы напрамак меў усе дадзеныя, каб пераўтварыцца ў строгую навуку з даследаваннем уласцівых ёй заканамернасцей. Не трэба забывацца, што любая геаграфія пачынаецца з апісання і любая геаграфічная характарыстыка тэрыторыі, нават самая строгая навуковая, павінна мець элементы геаграфічнага апісання. З улікам таго, што навуковаму аналізу ў геаграфіі папярэднічае апісанне, можна і патрэбна казаць пра вялікі ўнёсак Адама Ганоры Кіркора ў геаграфію роднай краіны, якую ён у свой час ведаў як ніхто і паказаў яе аблічча іншым.*

*З псіхалагічнага боку нельга не звярнуць увагу на тое, што А. Кіркор, маючы толькі гімназічную адукацыю, але без стомы працуючы над сабою і актыўна займаючыся навуковай дзейнасцю, стаіць у адным шэрагу з выдатнымі навукоўцамі свайго часу.*

*Уладзімір БЫКАЎ, кандыдат геаграфічных навук, дацэнт*

### Асноўныя геаграфічныя працы Адама Кіркора:

**Языческие обычаи на Белой Руси.** *Вильно, 1839.*

**Очерк городов Виленской губернии.** *Вильно, 1851.*

**Черты из истории и жизни литовского народа.** *Вильно, 1854.*

**Историко-статистические очерки Виленской губернии.** *Вильно, 1854.*

**Этнографический взгляд на Виленскую губернию. Вестник РГО, часть 20, 21.** *1857.*

**Литва и Белая Русь под взглядом историческим, географическим, статистическим и археологическим.** *Варшава, 1875.*

**Живописная Россия. Том 3. Литовское Полесье. Белорусское Полесье.** *Санкт-Петербург, 1882.*





Слухай сваё

*Музычны крытык Вітаўт Мартыненка (аўтар кніг «Праз рок-прызму», «Пошукі ідыліі», «Свой сярод чужых») добра вядомы беларускім меламанам. Апошнім часам разам з калегам Анатолем Мяльгуем ён падрыхтаваў для мінскага выдавецтва «Medisont» чарговы грунтоўны том на тэмы музыкі – «Сто альбомаў беларускага року». Нягледзячы на прэтэнцыёзную назву, у кнізе будзе і нямала старонак, прысвечаных беларускаму фальклору, нашым сярэднявечным традыцыям у музыцы (ад татальнай аўтэнтыкі да самых неверагодных апрацовак). Адну з такіх старонак, дзе ў самых сучасных музычных рытмах жывуць спрадвечныя традыцыі нашага краю, аўтар зычліва прапануе і нашым чытачам.*

# Пасляслоўе вялікага шляху

*«P.S.» – «Вандроўка», Мн., 2004, «БМАgroup».*

Ёсць у беларускім року асобы сімвалічныя, але... непрыкметныя. Аб прычынах цяжка нават і меркаваць. Вось, скажам, гурт «Postscriptum». Напрыканцы 90-х ён быў і ва ўсіх модных зборніках кшталту «Беларускі турбамiхэг» і «Вольныя танцы» (у дыску «Слухай сваё» знаходзім фальклорную песню «Сонейка», у CD «Альтэрнатыва_by» трапіў «Кароль залатой травы» і г.д.), а на юбілейным X «Басовішчы» (1999) менавіта «Postscriptum» падзяліў галоўныя фестывальныя лаўры з гуртамі «Exist» і «Znich». Акурат праз год мне давялося назіраць на наступным фэсце іхні лаўрэацкі канцэрт і уражвацца энергетыцы беларускага фольку, а потым размаўляць пра гэта з басістам калектыву Віктарам Галавачэнкам, з якім лёс наканаваў тады падзяліць гатэльны нумар. Ён казаў: «У нашым рэпертуары ёсць фальклорныя песні, але мы не займаемся апрацоўкай фальклору. Мы проста стараемся данесці да сучаснага слухача жывы драйв нашых старажытных песенных традыцыяў. А ён часам быў мацнейшы за ўсялякі навамодны хардкор альбо хэві-метал».

Гурт «Postscriptum» не раз і потым можна было спанатрыць на прэстыжных імпрэзах «Рок-каранацыя» або фолькмадэрн фэсце «Таўкачыкі», але поўнафарматных уласных рэлізаў усё не было. Не было, ды сталася!

І не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло: чамусьці апошнім часам гурт «Крама» пачаў эканоміць на гукарэжысуры і не бярэ на адказныя канцэрты свайго класнага,.. ды нават легендарнага гукача Алеся (Клауса) Белізяка. Таго самага, які запісваў ім легендарны альбом «Гарэлка на лёдзе», што ў свой час захапіў нават брытанскі рынак («БМАgroup» яго нядаўна перавыдала). Дык калі асабіста я заўважыў, што вакалістка «Postscriptum» Юля Саўрук стала Юляй Белізяк, дык зразумеў, што незапатрабаваны талент павінен адрадзіцца ў іншым месцы і...

І талент адрадзіўся. Менавіта Клаус у дыхтоўнейшай беларускай студыі БДТРК запісаў гэты доўгачаканы поўнафарматны дэбют легендарнага ўжо гурта (цягнулася гэта са снежня 2003 да мая 2004 года). Паслухаўшы вынік, я адразу скеміў, як нядбайна было б, каб мы страцілі гэты дар Божы.



Запісваўся альбом амаль у традыцыйным складзе: Юля Белізяк (вакал, цяпер адзін, хоць калісьці вакалістак было трое), Віктар Галавачэнка (бас-гітара), Аляксандр Івашкевіч (гітара), Мікалай Белановіч (бубны). А гасцёўна ім дапамагалі Алег Рыбалка (перкусія) і Яўген Хітрак (флейта).

У альбом увайшло тузін дыхтоўных хітоў, многія з якіх адразу пазнаюць гартаваныя фэны беларускага року (той самы «Кароль залатой травы», вядомы з канцэртаў «Вольных танцаў», і «Назаўсёды» («Ёлкі зялёныя»), а таксама кім толькі не перакаверканы фольк «Мела мамка тры сыночкі»). Але сапраўдны мега-хіт я знайшоў акурат сярод новых твораў калектыву, хоць акурат і хваляваўся за здольнасць гурта «Postscriptum» нанова ўразіць старых фэнаў і знайсці новых. Звярніце ўвагу на няўрымслівы шквал пачуццяў кампазіцыі «Званы», дзе стоадсоткава дынамічная паліра вакалу Юлі Саўрук (прабачце, Белізяк, хоць рэдка зоркі такога маштабу мяняюць прозвішча, бо нават Алу Кіркораву ніхто не ведае).

А як тонка зроблены гэткі беларускі «Californication» пад назвай «Вецер з поўначы». Гэты амаль unplugged стаўся ледзь не самай энергетычнай кампазіцыяй альбому: тонкі, пяшчотны і дынамічны. Няшмат саступае яму дынамізмам пяшчоты і кампазіцыя «Дарую табе», чатыры хвіліны якія прамільгваюць на адным удыху.

Напрыканцы альбому вас чакае ўвогуле нейкая джазавая пяшчота кампазіцыі «Мне не шкада» ў антуражы гэтак разнастайнага Юлінага вакалу. Дый музыка сыграна адпаведна.

Але гэта не ўсе сюрпрызы. Традыцыйныя беларускія шчадроўкі ў Юліным выкананні запомніліся многім, але пачуць знакаміты «Прыйды, прыйды, гаспадарю» на чысцюткім ukrainian даводзілася, бадай, не кожнаму, хоць паводле рытмікі кожны пазнае песню сходу. У альбоме «Вандроўка» яна таксама сталася адным з лепшых хітоў.

Перачытваю гэтыя радкі і заўважаю, што ані слова не сказана пра стыль музыкі гурта «Postscriptum». Мо таму, мяркую, што жывое сваё не заўсёды ўпісваецца ў мёртвыя чужыя схемы. Тут і хардкор, і фольк-рок, і фанкі, і ф'южн... Ды што жангліраваць малазразумелымі і незразумелымі слоўцамі, калі наяве выразна адно: энергетыка, сакральны змест, прыродны талент стваральнікаў альбома і тысячагадовая гісторыя многіх хітоў. Завяршаю рэцэнзію пад гукі чарговага прагону «Ветру з поўначы», і проста душа расце.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***

***На фота А. Плясанава:** Мартыненка і Мяльгуй у добрай кампаніі*



# Ад вераб'інага сычыка да нільскага кракадзіла,

## або Сказ пра майстра Генадзя



***(Заканчэнне. Пачатак на стар. 2)***

А найчасцей спадару Генадзю прыносяць свае трафеі паляўнічыя. Нярэдка загінулых птушак, галоўная небяспека якім – высакавольтныя электраліініі, што цягнуцца ад цеплаэлектрацэнтралі, – прыносяць падлеткі.

Справа ў тым, што, акрамя прафесій лесніка, пчаляра, цесляра, садоўніка, фотамастака, авалодаў гаспадар сядзібы і вельмі рэдкаю – таксідэрміста. А калі расшыфраваць, патлумачыць гэтае мудрагелістае слова, дык выраблше ён пудзілы птушак і жывёл. Дый не проста пудзілы, а нярэдка з «разынкаю», са знаходкаю ў кампазіцыі, з мяккім гумарам. На пакручастай сасновай галінцы суседнічаюць самая вялікая і самая малая совы, якія вядуцца на Беларусі, – барадатая кугакаўка і вераб'іны сычык. Ліса ўпалявала і моцна трымае ў пашчы курапатку, а тры зайцы застылі ў вобразе паляўнічых – са стрэльбамі, патранташамі, у залiхвацкіх капелюшах!

Дарэчы, ці дасі веры, але ў гэтым своеасаблівым музеі дзвесце шэсцьдзесят экспанатаў! Сто шэсцьдзесят прадстаўляюць айчынную фауну, але нямала і «гасцей»: птушкі, алігатар, экзатычныя рыбы.

Паказаў спадар Генадзь і святая святых – майстэрню, у якой шчыруе з дапамогаю жонкі Тацяны. Адны пудзілы робіцца тут з нагоды, другія – для душы, але нямала і па замовах музеяў, лясніцтваў, запаведнікаў, паляўнічых гаспадарак, навуковых устаноў. Сярод прыватных замоўцаў – найчасцей паляўнічыя і рыбаловы, прычым не толькі з Беларусі або суседніх краін. Бывала, што адпраўляліся творы (язык не паварочваецца казаць – вырабы!) у Італію, у Нямеччыну, на Кіпр.

Уразілі таксама энцыклапедычныя веды гаспадара ў галіне арніталогіі. Уражанне, што пра птушак, прынамсі, пра беларускіх, якіх з нядаўнім з'яўленнем стэпавага арла, налічваецца трыста адзінаццаць відаў, ведае ён усё. І не толькі ведае – ахвотна і захоплена ведамі тымі дзеліцца. Праводзіць па сваёй сядзібе экскурсіі ад школ і прадпрыемстваў, кансультуе кнігавыдаўцоў, збірае навуковыя дадзеныя акадэмічнаму Інстытуту заалогіі. Прычым робіць усё гэта бескарысліва.

Ты можаш спытацца, адкуль тыя веды ў выпускніка ўсяго толькі Барысаўскай лясной вучэльні – СПТВ-42? Адказ вельмі просты – апантанасць, цікаўнасць і штодзённая самаадукацыя. А вывучаць падручнікі, даведнікі і энцыклапедыі пачаў ён у падлеткавым узросце, чытаў нават з ліхтарыкам пад коўдраю!

А калі дадаць сюды фенаменальную працавітасць і працаздольнасць, дык становіцца зразумелым, чаму сёння суседзяцца, да прыкладу, вальеры з фазанамі: залацістым, срэбным і зялёным румынскім, а ледзь не поруч са свойскімі жывёламі някепска пачуваецца і... нільскі кракадзіл! Здавалася б, невялікае дзіва – сажалка з карпамі, карасямі, лінамі ды шчупакамі. Але ж трэба было выбіць пад яе дазвол гарадскіх уладаў. А калі сажалку тую Пузанкевічы выкапалі, дык і ўдзячныя суседзі паразбівалі грады на месцы былой балацiны.

А колькі, братка ты мой, дзівосаў у аранжарэі! Уяві сабе – семдзесят пяць відаў раслін! Уражвае і сад, дзе можна пабачыць пасадкі кедрача, дзялянку з радыёлай ружовай, грушы, прышчэпленыя на рабіне, яблыню, што прыносіць плады трынаццаці гатункаў! А ў двары – кветнікі, пярголы з некалькімі вінаградными лозамі, альпійскія горкі, а неўзабаве, упэўнены, можна будзе ўбачыць фантанчыкі і водаспадзікі, бо старэйшая дачка Алена ўжо год адвучылася ў тэхналагічным універсітэце па спецыяльнасці «ландшафтны дызайн». Старэйшы сын пайшоў бацькавай сцяжынай, скончыў Барысаўскі прафесійны экалагічны ліцэй. Нават здалёк было чуваць Віктараву сякеру – намерыўся будавацца поруч. Відавочна, Пузанкевічавы абсягі пашыраюцца.

Малодшыя, прыёмныя дзеці, школьнікі Вольга з Сашам мудрагелілі на кухні, а потым частавалі сваім печывам і шарлоткаю з адмысловай гарбатаю.

А яшчэ за пачастунак былі... фотаальбомы. Прытым не аматарскія падборкі, а цэлыя фаліянты-справаздачы пра падарожжы па Беларусі, па Архангельскім краі і Карэліі, па Паволжжы і Сібіры, па Прымор'і і Далёкім Усходзе. А яшчэ па выключна багатай раслінным светам выспе Шры Ланкі. Па далёкай Кеніі, якая багатая сваімі запаведнікамі з мноствам цікавейшых прадстаўнікоў фауны, якія абсалютна індыферэнтна ставяцца да турыстаў і падарожнікаў. А непалахлівыя яны таму, што ў той афрыканскай краіне паляваць забаронена. Хаця не, ёсць два выключэнні. Турысты могуць паляваць з фота- і відэакамерамі, а плямёны тубыльцаў кшталту знакамітых масаяў, што жывуць паза сучаснай цывілізацыяй, – з коп'ямі і стрэламі.

Каментары да некаторых здымкаў, бывала, ператвараліся ў міні-навелы. Напрыклад, дзеля таго, каб некалькі разоў шчоўкнуў затвор старога незаменнага «Зеніта», спадару Генадзю даводзілася часам маскіравацца і нерухома праседжваць на дрэве не адну гадзіну.

Дарэчы, на час трэба было зважаць і нам, тым болей, што залева, падчас якой мы раскашавалі ў хаце, скончылася.

Выбіраліся ад ветлівых і гасцінных гаспадароў, і мімаволі прыгадваў я вёску Мосар на Глыбоччыне, дзе за некалькі гадоў тамтэйшы пробашч Язэп Булька з дапамогаю вернікаў здолеў ператварыць у рукатворны Эдэм не толькі прыкасцёльную тэрыторыю, але і ўсё наваколле. Думалася і пра тое, як шмат цікавага і неспадзяванага можна ўбачыць і пачуць непадалёк, зусім поруч.

Хацелася яшчэ раз вярнуцца ў Судабоўку, каб паказаць сваім дзяўчатам, а можа, і не толькі ім дружную сям'ю і дзівосную сядзібу Пузанкевічаў. Вярнуцца, каб яшчэ раз убачыць надзвя прыязныя, з вясёлымі праменьчыкамі маршчынак вочы, каб яшчэ раз адчуць моцны поціск рук жодзінскага цудадзея...

А цяпер мушу развітацца і з табою, Браце.

Але спадзяюся, што хутка пабачымся і супольна павандруем па-над Плісою.

***Уладзімір СІЎЧЫКАЎ***

***На фота Г. Пузанкевіча:** звычайная пустальга; тхор*

## Кастрычнік

**«Раніца»** (да 1993 г. «Піянер Беларусі»), газета для дзяцей і падлеткаў (Мінск; 1929) – 75 гадоў з пачатку выдання.

**Дудзіцкі музей матэрыяльнай культуры** (Пухав. р-н; 1994) – 10 гадоў з часу адкрыцця.

1 – **Брэсцкі тэатр драмы і музыкі** (1944) – 60 гадоў з часу стварэння.

15 – **Случанін Лявон** (сапр. Шпакоўскі Лявон (Лявонцій) Раманавіч; 1914, Случ. р-н – 1995), паэт – 90 гадоў з дня нараджэння.

15 – **Прыгодзіч Зіновій Кірылавіч** (1944, Пін. р-н), пісьменнік – 60 гадоў з дня нараджэння.

25 – **Грачанінаў Аляксандр Ціханавіч** (1864–1956), расійскі кампазітар (з 1925 г. жыў за мяжой – Францыя, ЗША), член Беларускай песеннай камісіі, аўтар апрацовак беларускіх народных песень – 140 гадоў з дня нараджэння.

## Сусветны дзядзінец

**862 н.э.** Першае пісьмовае ўпамінанне пра існуючыя ўжо Кіеў, Полацк, Ноўгарад – цэнтры адпаведных княстваў.

**1581.** У горадзе Астрогу (на Валыні) друкар Іван Фёдараў выдаў першы рускі каляндар. Да кожнага месяца там публікаваліся вершы беларускага паэта Андрэя Рымшы.

**1998.** Амерыканец Майкл Кірні становіцца самым юным у гісторыі чалавекам, які атрымаў дыплом магістра навук (у біяхіміі) – яму 14 гадоў 8 месяцаў.



Фота Міколы КОТАВА

# Свежы карп – да стала спажыўца

***У апошнія гады рыбы ў гандлёвым абароце Беларусі прыкметна пабольшала. Гэтаму найперш садзейнічае мэтанакіраваная работа па наладжванні прамога супрацоўніцтва з расійскімі рэгіёнамі, арганізацыя работ па стварэнні свайго рыбалавецкага флоту.***



Што ж тычыцца сваёй, як кажуць, роднай, свежанькай рыбы, то мы ўжо звыкліся, што яна з'яўляецца на прылаўках толькі ў пачатку верасня, у лепшым выпадку ў канцы жніўня – такі традыцыйны цыкл вырошчвання. Таму даводзілася злёгку здзіўляцца, убачыўшы свежага карпа ў гарадах Стоўбцы, Дзяржынск і бліжэйшых населеных пунктах ужо з сярэдзіны ліпеня, числа з 19–20-га. І напрошвалася здагадка – відаць, якісьці рыбгас «фінансавыя дзіркі латае», вымушана і дачасна рэалізуючы недарошчаную рыбу?

А вось і не! У рыбгасе «Хотава» Стаўбцоўскага раёна да таго рыхтаваліся загадзя, яно прадугледжвалася самім тэхналагічным цыклам. Для гэтага сажалкі былі зарыблены раней звычайнага – ужо з красавіка, адразу пасля раставання снегу. Яшчэ ў зімавальных сажалках да гэтага пачыналі прыкормку, прывучалі рыбу да надступнага інтэнсіўнага харчавання. У кармавым рацыёне асноўная стаўка зроблена на прапаранае зерне, а гэта двайны эфект – пры высокай каларыйнасці для рыбы вада менш забруджваецца гнілымі рэшткамі (як пры выкарыстанні камбікармоў). Для расшырэння рацыёну і больш збалансаванага кармлення спажываюцца адыходы мясакамбіната, птушкафабрыкі, уносіцца брага ад спіртавытворчасці, што забяспечвае інтэнсіўнае размнажэнне і рост натуральнай кармавой базы вадаёмаў. Пры гэтым кошт мясаадходаў складае прыкладна 200 рублёў за кілаграм, у той час як адпаведна рыбнага камбікорму – недзе 450–600 рублёў.

Гэта дазволіла ўжо да сярэдзіны ліпеня выгадаваць карпаў-двухгодкаў сярэдняштучнай вагой прыкладна 650 грамаў, а то і да кілаграма. Такія сажалкі прыспускаюцца, арганізуецца частковы адлоў карпа на праточных месцах, частка рыбы – недзе 50 працэнтаў – вылаўлівавецца і рэалізуецца, потым сажалкі дапаўняюцца вадой, і астатняя рыба расце далей. Гэта забяспечвае адначасова разрэжванне рыбінага статку, дае астатнім водным насельнікам магчымасць «больш свабодна ўздыхнуць», што крайне важна ў самы гарачы перыяд лета, яны больш актыўна харчуюцца і растуць як на дражджах.

Праўда, у спёку і з рэалізацыяй (перавозкай) узнікаюць праблемы – у ёмістасцях рыба тут жа задыхаецца, хутка становіцца нежывой, а гэта пагаршае і таварны выгляд, і харчовую каштоўнасць. Але і тут работнікі знаходзяць выхад, выкарыстоўваюць сістэму двайнога забеспячэння кіслародам вады ў ёмістасцях для транспарціроўкі: пры пагрузцы і перад адпраўкай па гандлёвых кропках, хаця ўсё ж невялікага ўрону пры транспарціроўцы пазбегнуць не ўдаецца. Большай жа часткай да прылаўка карп паступае такім, нібы яго толькі вылавілі – свежанькім, таму за ім адразу ж выстройваюцца чэргі, Ды і кошт прыймальны – па тры з палавінай тысячы за кілаграм.

А рыбгасу грошы таксама дарэчы – з крэдытамі за камбікормы раней разлічыцца, на зарплату супрацоўнікам выкарыстаць, новае абсталяванне закупіць, на набыццё элітнай племяннай моладзі каштоўных рыб зарэзерваваць.

***Вячаслаў СТОМА, журналіст***
***Фота аўтара***

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*



**БАГУШЭВІЧ Францішак** (псеўданім Мацей Бурачок, Сымон Рэўка з-пад Барысава; 09 (21).03.1840, б. фальварак Свіраны на Віленшчыне – 15 (28).04.1900) – беларускі юрыст, паэт, празаік, перакладчык і публіцыст. Вучыўся ў Віленскай гімназіі, у 1861-м паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта, дзе спазнаў студэнцкую вольніцу і далучыўся да яе. Калі разам з іншымі быў супраць абмежавання студэнцкіх правоў, то яго выключылі са сталічнай навучальнай установы. Настаўнічаў у сённяшнім Воранаўскім раёне, у паўстанне 1863–1864 гадоў супраць царызму далучыўся да яго ўдзельнікаў і ў баях у Аўгустоўскіх лясах быў паранены. Асцерагаючыся жорсткай расправы, што тады чынілася над паўстанцамі, тайна жыў пад Беластокам і ў Вільні, пасля перабраўся на Украіну.

Пры спрыянні Я. Карловіча (1836–1903, польскі мовазнавец, этнограф, фальклярыст, музыказнаўца, які вывучаў і беларускую мову, культуру, падтрымліваў яе дзеячаў) паступіў у Нежынскі юрыдычны ліцэй, дзе вучыўся ў 1865–1868 гадах. Пасля працаваў памочнікам справавода Чарнігаўскага губернскага праўлення, судовым следчым у Чарнігаве і ў іншых украінскіх гарадах, а ў 1884-м пераехаў у Вільню, быў адвакатам, найперш абараняючы правы беднага люду. З 1898-га жыў у Кушлянах сённяшняга Смаргонскага раёна, пахаваны ў Жупранах сучаснай Ашмяншчыны.

На вялікі жаль, і сёння (зразумела, найперш з-за Багушэвічавай канспірацыі) невядома, калі ён спрычыніўся да глыбокага спачування роднаму народу, болю за ягоны цяжкі лёс, да беларускай справы і паэзіі. Яго паэтычныя зборнікі «Дудка беларуская» (пад псеўданімам Мацей Бурачок; Кракаў, 1891) і «Смык беларускі» (пад псеўданімам Сымон Рэўка з-пад Барысава; Познань, 1894) ярка паказваюць, што ён у іх не толькі ўжо сталы грамадзянін, свядомы беларус, але ўжо і сталы паэт– значыць, пісаў вершы даўно і, магчыма, хаваў іх у сваёй памяці, знаёмячы з імі толькі блізкіх, надзейных сяброў. Яны і дапамаглі яму выдаць іх кнігамі за межамі Бацькаўшчыны, бо ў ёй, у вялікай ступені беларускамоўнай, пабачыць друкаваную рэч на роднай мове было немагчыма. За яе (нават рукапіс) найхутчэй можна было пабачыць, спазнаць вобыск, арышт і краты.

Багушэвічава паэзія вызначаецца рэвалюцыйным дэмакратызмам – у першую чаргу не толькі спачуваннем, але і высакародным гневам за тое, што простага чалавека, селяніна (а гэта тады значыла і ў асноўным носьбіта беларускай нацыі) абрабавалі пры адмене прыгону і зноў па-свойму запрыгонілі царскімі казной, судом, усяўладнымі чыноўнікамі. Багушэвіч падкрэсліваў: «Мужык быў голы, цяпер яшчэ гольшы». Як жывыя, простыя людзі з усімі сваімі клопатамі і бедамі паўстаюць у творах «Кепска будзе», «У судзе», «Бог не роўна дзеле», «Не цурайся», «Ахвяра». Больш – у некаторых творах ён ухваляў тыя моманты, гнеўныя парывы, калі пакрыўджаны, абражаны селянін ідзе ўжо на тое, каб «з'ехаць ураднiку тройчы меж вушоў»: цярплівасць, пакорлівасць мае свае пэўныя межы.

У зборніку «Смык беларускі», апроч сацыяльнага, Багушэвіч пашырыў, паглыбіў і іншыя далягляды – даў узоры выкарыстання і філасофска-эстэтычнага напаўнення народнай песні, выказаў аптымізм у лепшай будучыні, «калі перастанем плакаць мы над сваёй доляй», а дзеля гэтага ў сваёй творчасці значна ўзмацніў матывы нацыянальнага адраджэння. Ён зазначаў: тутэйшы просты люд – не проста мужыкі, на якіх «звякаюць ланцугі», які гаротна пазірае на сваю «зямельку, слязьмі залітую», а нашчадак тых, хто некалі быў народам, меў сваю дзяржаўнасць. У нацыянальна-дзяржаўным адраджэнні беларусаў, сцвярджаў Багушэвіч, адна з першых задач – адраджэнне, пашанотнае ўзвышэнне беларускай мовы: мова для кожнага народа – яго душа, сутнасць, гонар і слава, сённяшні дзень і будучыня. Ён горача ўхваляваў славян-братоў з Балгарыі, якія не адно стагоддзе пакутавалі пад асманскім ігам, а, вызваліўшыся ад яго, пачалі сваё адраджэнне менавіта з роднай мовы, культуры, з аднаўлдення гістарычнай памяці. У будучыню ён адрасаваў свой мудры заклік: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»

Багушэвіч развіў беларускую літаратурную мову, удасканаліў паэтыку, пашырыў яе жанры (вершы, паэмы, вершаваныя апавяданні і аповесці, байкі, апрацоўкі народнага, дописы і артыкулы, складанне па парадзе Я. Карловіча слоўніка беларускай мовы, першыя ў нашай літаратуры празаічныя творы), што ўсё разам узятае ўзвысіла ўсю беларускую літаратуру, падрыхтавала з'яўленне ў ёй сусветных вышынь у асобе наступнікаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага і іншых, якія, у сваю чаргу, глыбока паважаюць Яго, хто заклікаў не для таго, каб «умерці», а да жыцця. Імя Францішка Багушэвіча ўшаноўваецца сёння ў назвах Ашмянскага краязнаўчага музея, літаратурнага музея і бібліятэкі ў Кушлянах; яму ёсць помнікі ў Жупранах і на яго магіле; яму прысвечана шмат даследчых літаратуразнаўчых прац не толькі ў нас, але і ў братняй Украіне, дзе шчыра ганарацца тым, што і на іх зямлі ішло грамадзянскае і паэтычнае станаўленне класіка беларускай літаратуры, Чалавека з вялікай літары.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары дописаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 30. 09. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330 ад 27. 02. 2004 г.)
Заказ 1580.
Тыраж 1150.